
Мікола Несцярэўскі →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ


Іосіф Амельяновіч →8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

№ 34 (2990) Год LVIII | Беласток, 25 жніўня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




*Пані Ніна па сённяшні дзень памятае агулькі, садонькі, вясельныя і сенакосныя песні. У вёсцы абы-чаго не спявалі. Усе песні былі прыпісаны канкрэтным каляндарным і сямейным абрадам. Самых таленавітых спевакоў запрашалі да царкоўнага хору...*

# Такія то песні

Ніна Вэршко выседжвае адна на лавачцы, пад вішнямі. Просім, каб штось заспявала, расказала пра свой *зэспул* „Крыўчанкі".

Бабуля рада, што ёю пацікавіліся. Год таму яна захварэла на сэрца, і ўсё прапала. Ніхто з беларусаў вачэй не пакажа. Не запрашаюць на фэсты, на фестывалі, бясэды...

— *Нэ бэрут ужэ...*

Іх калектыў узнік і разляцеўся неяк непрыкметна, не дачакаўшыся на працягу пятнаццаці гадоў існавання прафесійнага запісу на асобным дыску, ні фальклорнага зборніка з нотамі.

Ды самі „Крыўчанкі" не пасавалі да каляровай эстрады БГКТ.

На выступленні прыязджалі ў белых кашулях і простых спадніцах, як у звычайную гасціну да сваякоў. Але калі заспявалі — усе глядзелі на іх. Праўдзівы, карэнны спеў, насычаны эмацыйнасцю, здаваўся, прарываецца ў неба, каб разам падняць і акрыліць ашаломленых іх спевам слухачоў. На вытанчаны, мастацкі эфект спрацоўваў дыскант Ніны Вэршко. Жанчына нейкім цудам умела састроіць з сабой традыцыю народнага і царкоўнага спеву. Праз гэта іх песні гучэлі як жывы працяг пакаленняў.

* * *

Нарадзілася ў 1929 годзе ў Ласінцы. У час вайны згарэла іх вёска. Маці асталася ўдавой з шасцю дзяцьмі. Каб неяк пракарміцца, перабраліся жыць за вёску, на хутар.

Ужо ў маладыя гады талент Ніны прыкмеціў мясцовы дзячок Давідзюк.

— Ён запрасіў мяне на хор, — успамінае бабуля, — але я не пайшла, не мела адвагі. Ведаеце, мы жылі ў вялікай бядзе. Не было ў што апрануцца. А да людзей не пойдзеш голы і босы...

Але ў народзе жылі традыцыі. На Светлым тыдні дзяўчаты збіраліся за вёскай, каля могілак, каб там паспяваць агулькі — вясновыя песні з пажадальным сюжэтам.

— У кампаніі было да пятнаццаці дзяўчат, — адзначае пані Ніна.

Іх следам цягнуліся кавалеры. Хлопцы хаваліся на могілках, пераапраналіся за страшыдлы, палохалі дзевак... Збіраліся яшчэ ля каплічкі ў сярэдзіне вёскі, каля *Родэлевых*.

Пані Ніна па сённяшні дзень памятае агулькі, садонькі, вясельныя і сенакосныя песні. У вёсцы абы-чаго не спявалі. Усе песні былі прыпісаны канкрэтным каляндарным і сямейным абрадам.

Самых таленавітых спевакоў запрашалі да царкоўнага хору.

— Гэта было на пахаронах аднаго музыканта з Гарадзіскаў, — успамінае. — Я пайшла *на выводнэ*. Да мяне зноў падышоў дзячок Міхал Давідзюк і запрасіў на хор. Ну, думаю, як ужо другі раз падышоў і просіць, то я там патрэбная!

* * *

Згодна з духам народнага этыкету, „Крыўчанкі" не перліся сляпіцай на эстраду. Ды і намаўляць іх трэба было некалькі разоў — усё для формы. Каб пасля ніхто не казаў, што нахабніцы. А ўсё пачалося так. Першым прыкмеціў іх украінскі журналіст Яўген Рыжык. Ён прыехаў да спявачкі Любы Дубко, ды стаў намаўляць яе, каб выступіла на ўкраінскім фэсце ў Чаромсе.

— Яна не хацела ехаць адна, — апавядае Ніна Вэршко. — Тады я сабрала кампанію і мы паехалі ў чатыры асобы. Пасля Рыжык запрашаў нас многа разоў у Бельск. І ўсё хацеў, каб новыя песні яму спявалі. Прыязджала тэлебачанне, запісвалі нас для радыё. А пасля намі пацікавіліся беларусы. *Нас вэльмі далеко понэлі.* Мы сталі прыязджаць у Беласток, паехалі на „Сяброўскую бяседу" ў Гарадок (ой, ледзь вытрымалі, там усю ноч гулялі).

Новы этап у канцэртнай дзейнасці адкрыў ім Дарафей Фіёнік, які запрашаў на свае святы ў Студзіводы.

— Фіёнік вельмі ўпадабаў гэтую песню, — пані Ніна праспявае нам вясельную *Расцвіталі вішні в зэлёном садочку, вышывала Марусенька Іванові сорочку...* — Фіёнік сядзе каля мяне і ўсё, калі не заедзеш, просіць, каб яму гэту спяваць.

Дзякуючы ўдзельніцтву ў музычных мерапрыемствах, засталося некалькі гукавых запісаў іх песень, між іншым, мая ўлюбёная „Журылася Катэрына" ў крыўчанскай жартоўна-эратычнай версіі.

— Бывала, як заспяваем: *А в стодолі хлопцы-зухі поробілі дівком брухі*, — смяецца наша субяседніца, — то нам моцныя бравы білі.

Існаванне гурту ўскладніў пажылы ўзрост спявачак. Палова з іх ужо адышла ў лепшы свет.

— З шасці кабет нас тры асталося, — кажа пані Ніна. — Адна хворая, другая хадзіць не можа... Але калі б хто запрасіў, мы з Любай яшчэ заспявалі б!

* * *

Музычная прыгода была ўсё ж залатым дапаўненнем здзейсненага жыцця жанчыны. У Ніны Вэршко сямёра ўнукаў і васьмёра праўнукаў. Часам прыязджаюць да яе ў Крывец, запрашаюць да сябе ў Беласток. Пытаем як папала замуж у суседнюю вёску, у Крывец. У яе дзявочыя гады кавалеры хадзілі за ёй як ачмурэлыя. Трох заявіла, што будзе кахаць яе да сваёй смерці.

— І праўда, яны да канца жыцця не пажаніліся, — кажа пані Ніна.

Не ведае, чаму выйшла замуж якраз у Крывец, за свайго мужа.

— Гэта лёс, — кажа.

Папраўдзе, вырашылі за яе брат і маці. Маці сказала: „Яго бацькі добра жывуць з сабой, ідзі дзіцятка, можа і табе добра будзе". Брат пайшоў у розглядзы, пабачыў і за два тыдні вяселле згулялі.

— Я была на яго злосна. Кажу: навошта адразу даў згоду. То ж трэба, каб хлопец некалькі разоў прыйшоў дахаты, пагаварыў...

**Ганна КАНДРАЦЮК**





# Свінячая тэма

Свіная тэма сярод насельніцтва Беларусі зараз стала больш папулярнай і актуальнай, чым тэма мытнага саюза, змен у выбарчае заканадаўства Рэспублікі Беларусь або палітвязняў. Я ўжо не гавару пра тэму расейскага рубля. І чаго пра яго так доўга спрачацца было? Апазіцыя атаясамляла гэты мажлівы крок улады з поўнай здачай незалежнасці і клікала людзей бараніць свае грошыкі. Улада ўпарта не дазваляла такія дэманстрацыі і ганялася за зачыншчыкамі. А, аказваецца, нічога гэтага не было патрэбна. Расейскі рубель і ў Расіі не асабліва шануецца тымі людзьмі, якія маюць яго ў колькасці крыху большай, чым каштуе скрынка гарэлкі. Што ўжо казаць пра Беларусь.

Іншая справа свінні. Гэта не проста цвёрдая валюта беларускага вяскоўага жыхара. Гэта яшчэ і жывая валюта людзей, генетычная памяць якіх без падручнікаў гісторыі беспамылкова дае азначэнне, што такое працадзень і птушачка ў працоўнай ведамасці. Працадзень аддаў, птушачку атрымаў. Толькі яна нежывая, тая птушачка, з яе крупнік не зварыш. А вось свіння жывая. Стаіць ва ўласным хляве і прыемна рохкае. Да тае пары, пакуль сам гаспадар не вырашыць, што ёй пара адпраўляцца ў кладоўку ў выглядзе сала, паляндвіц, кумпякоў ды каўбас. Гэта жывая валюта, якую беларускі вясковец сам вырабляў і сам разлічваўся той валютай за ўсё на свеце: і каб дзяцей у горад прыстроіць, і каб добрую працу ім знайсці, і каб лішнія соткі не ўлічылі, і каб палячылі, і каб кулакамі не прызналі, і каб у Сібір не вывезлі. Свіння — гэта прыватны банк вяскоўца, яго скарб і яго самая надзейная страхоўка на ўсе выпадкі жыцця.

І вось страхоўку забіраюць. Не першы раз, канешне. Прыходзілі ўжо саветы, раскулачвалі. А пасля пры немцах навучыліся нашы вяскоўцы так калоць свінню, з мяшком на рыле, каб яна і гуку не падала. А то як даведаюцца, што без іх дазволу сваё скарыстаў, то сам ці паспееш гукнуць. Пасля адлігі шасцідзесятых гадоў крыху лягчэй стала. За прыватную гаспадарку саромелі, асабліва за свіней, але ж не забівалі. Ні людзей, ні свіней. Ужо думалі, што мінулі тыя часы, калі за сваім мазалём узгадаваную свінню можна было праблем набрацца. Ды яны вось зноў вярнуліся.

Кажуць, афрыканская чума наляцела. І нашы людзі ўсё зразумелі б. Трэба ж неяк ратавацца і ад афрыканскай чумы. І халера з імі, з тымі свіннямі. Папалілі б іх усіх ды закапалі б дзе глыбей, каб сабакі не паадрывалі. Не першы ж раз з нуля пачынаць гаспадарку прыходзіцца. Пра чарнобыльскую чуму і то забыліся. І тут неяк адпакутвалі б, каб хоць крыху была вера начальству. Хоць аднаму іх слову. А то ж усё марна. І свінні пацерпяць ні за што, і людзі. Бо дзе хоць нейкая гарантыя, што як новыя свінні падрастуць, зноў не прывалакуць свіной чумы, і зноў пабіць жывёл не загадаюць.

Самі ж прызналі, што з Расіі ў камбікармах тую чуму прывезлі. Але ж на мяжы з Расіяй пастоў так і не паставілі. Не правяраюць, ці едзе адтуль новая партыя якой хваробы — свіной, каровінай, птушынай, ці людской. Каб патрапіць ад нас у Польшчу, трэба прайсці кантроль, памыць колы і абутак ды плакат пачытаць на расійскай мове пра тое, што такое афрыканская чума і як з ёй змагацца. І свініны не перавязеш, і камбікармоў заморскіх, чумой атручаных. Так польская краіна ратуе сваіх людзей ад праблем, і заадно сваіх свіней. А вось у нас ратуюць комплексы ад беларусаў. За пяць кіламетраў ад комплексаў ім свіней гадаваць забаранілі назаўсёды. А беларусаў ад свіной чумы, што едзе з Расіі, так абараняць аніхто і не збіраецца. Вось і атрымліваецца, што хоць рэж тых свіней, хоць калі, а свіная чума гуляе вольна. Па ўсёй шырокай прасторы мытнага саюза.

А дзе ж былі ўладальнікі свіней, як нас у тую мытную прастору зацягвалі? Хіба што свіней гадавалі. Акурат зараз тыя свінні і падрaслі ўжо, акрэплі. Толькі гэта іх не ўратавала. Вось яно і атрымліваецца, што калі свіная тэма будзе і надалей больш папулярнай і актуальнай чым, прыкладам, тэма мытнага саюза, ці змен у выбарчае заканадаўства Рэспублікі Беларусь, або палітвязняў, то ў хуткім часе гэтая свінячая тэма знікне сама па сабе. Знікне разам са свіннямі.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Рэцэпт на агуркі

Агуркі, насуперак паўсюднаму перакананню, гэта не гародніна. Прылічваецца іх да ягад. Гэтак жа, як дыні і кавуны. Агурок ядуць няспелым. Чым больш зялёны, тым большы ў нас апетыт на яго. На тыя пераспелыя, пажоўклыя нават не глянем. Пагардліва называюць насеннікі «мацёрамі», «каровамі» ці «кабыламі». Не квасім такіх, не марынуем, не робім з імі саладжавых ніклаяў. Так, агурок гэта з'ява. Можам яго з'есці, можам зрабіць ачышчальную маску на твар. Я прызнаюся, што выгляд жанчыны з кавалачкамі агурка ў вачніцах вельмі мяне кранае. Ні жанчына гэта, ні монстр. Але як ні дзіўна, жанчына зробленая пад «мізэрыю» становіцца быццам больш добрай, быццам больш сяброўскай. А калі гэта жонка, можаш з ёю дагаварыцца як у тыя дні, калі яна была яшчэ тваёй нарачонай. Агурок быццам яе змякчае, расчульвае. Ён робіць таксама яе больш памяркоўнай да мужчынскіх слабасцей, набытых разам з калегамі пасля працы. Скрывіцца на развяселенага мужа кабета не можа, бо агурок упадзе ёй з вачэй. Лягчэй тады перакінеш кантрабанду сваёй мужчынскай шавіністычнай пазіцыі ў адвечнай дыскусіі, ці то шыя круціць галавой, ці то галава выклікае шыйныя дзівакруты ў жанчын. Ах, жанчыны, жанчыны...

Само слова «агурок» таксама мае ў сабе шмат красы. Калісь, быўшы настаўнікам, я горача спрачаўся з вучнем, які прыклаў усе намаганні, каб зрабіць з «ogórka» незвычайнага «ogurka». З прыкрасцю прызнаюся, што я зацяўся і паставіў яму паспалітую «палку». Я не меў рацыі. Цудоўным чынам мой вучань пасля многіх гадоў стаў маім босам. Дыпламатычна абміналі мы справу арфаграфіі слова «агурок», але яна клалася халодным ценем на нашых адносінах. Аднак, прыйшоў час. Здарылася так, што я прыняў памылковае рашэнне, якое... каштавала фірму даволі шмат грошай. Я спадзяваўся, што мой бос з задавальненнем звольніць мяне. Выкіне на брук! За інкрымінаваны «агурок». Хапіла толькі страху. Да майго вялікага здзіўлення, ён махнуў рукой на страту. А справу пракаментаваў наступным чынам: «Кожнаму можа прытрапіцца такі „агурок"». Аднак, я чагосьці навучыўся!

Але агурок агурку няроўны. Возьмем зімовую пару, калі паліцы крамаў загружаны тымі вырашчанымі пад фольгай або імпартнымі. Разлезлае гэта і пахучае хлорам як водаправодная вада. Але возьмем у рот першы выраслы ва ўласным агародзе — гэта ж амброзія багоў, чысты смак лета, сутнасць жыцця! Не без прычыны экстракты агурка лічацца эліксірам маладосці і здароўя. Актыўныя злучэнні ў ім, кажуць, супрацьдзейнічаюць раку. Перш за ўсё, агурок дастае з чалавека дабрыню, салідарнасць і суперажыванне. Не бульба, не яблык або сліўка. А нават і не памідор. У маёй вёсцы кожнае лета, калі агуркі буяюць на градках як шалёныя, пачынаецца паломніцтва гаспадынь. Ад хаты да хаты, і заўсёды з тым жа лагодным заспевам: «Можа быць, вы хочаце агуркоў? Сёлета іх столькі нарасло!» — «Ой, у нас тое самае. Узялі б вы ў нас, нават некалькі кашоў...». Звярніце ўвагу, што ўсе хочуць, каб падзяліцца імі. Бескарыслівa. У лепшым выпадку за добрае слова. Так, толькі агуркі вызваляюць людзей ад эгаізму, адсланяюць схаваны альтруізм, узбагачаюць іх яшчэ доказам добрасуседскай дабрыні. Дарэчы, ці можа хто-небудзь хоча маіх агуркоў? Таму што пакуль паліцы маёй каморы стогнуць ад слоікаў. А новыя прыбываюць і прыбываюць. Ужо не паспяваю з перапрацоўкай. У інтэрнэце я знайшоў рэцэпт на маласольныя з Расіі. Аб'ядаўся я імі, але ўжо дастаткова. Не трэба да іх вады. Хопіць соль — сталовая лыжка на кілаграм агуркоў, часнык і кроп. Агуркам трэба адрэзаць канцы, пакласці ў поліэтыленавы пакет, засыпаць соллю з дадаткам часнаку і спецый, торбу шчыльна закруціць, салідна страснуць і пакласці ў халадзільнік. Халадзільнік, да таго ж, неабавязковы. Пасля некалькіх гадзін маласольныя агуркі ўжо гатовыя для спажывання, і яны на смак сапраўды такія ж, як зробленыя традыцыйным спосабам.

Радзімай агуркоў лічаць Індыю. Агурок, значыць, індыйская ягада. Быў прывезены ў Еўропу ў дванаццатым стагоддзі — магчыма, папярэднікамі сённяшніх цыган. На працягу стагоддзяў удасканальвалася яго перапрацоўка. Мы ямо яго квашаным, марынаваным, маласольным, свежым з мёдам, фаршаваным разнастайнымі прысмакамі, халодным або запечаным, у выглядзе супоў, джэмаў і напояў. Асабіста я рэкамендую пірог са свежымі агуркамі. Смакоцце! Толькі што на агуркі я ўжо не магу глядзець! І нашто я пасеяў іх так многа?

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Аб Групе яшчэ раз

Калі старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Ян Сычэўскі адкрываў на беластоцкіх Плянтах сёлетні юбілейны (дваццаты) выпуск Фестывалю польскай і беларускай песні «Беласток-Гродна», адзначаў, што побач БГКТ суарганізатарам мерапрыемства з'яўляецца Гродзенскі аблвыканкам. У прыватнасці, я звярнуў увагу на гэта, успамінаючы заявы дэпутата Яўгена Чыквіна наконт існуючай ад ліпеня ў Сейме і пад яго кіраўніцтвам парламенцкай групы па супрацоўніцтве з Рэспублікай Беларусь (пісаў я пра гэта ў апошні час у рубрыцы «Вачыма еўрапейца»). Група была створана ў апазіцыю да іншай групы па Беларусі, існуючай у парламенце з 2005 года, якую ўзначальвае дэпутат Роберт Тышкевіч. Дэпутат Чыквін зрабіў заяву для прэсы аб прычынах заснавання яго групы: «Да дзейнасці заахвоціў нас недахоп якой-небудзь актыўнасці групы па Беларусі ў гаспадарчых сферах, культурнага супрацоўніцтва, адукацыі, маладзёжных праграм, аховы навакольнага асяроддзя і польскай меншасці ў Беларусі і беларускай у Польшчы».

Прыглядаючыся канцэрту на Плянтах, а ў апошнія гады назіраючы польска-беларускія дзеянні на ўзроўні мясцовых самаўрадавых або няўрадавых арганізацый (у беларускім кантэксце паняцці «самаўрад» і «няўрадавыя арганізацыі» навырaст) у галіне бізнесу, навукі і культуры, не пераконвае мяне аргумент аб неабходнасці аж на парламенцкім узроўні займацца гэтымі праблемамі, праз дзеянні другой, спецыяльнай контргрупы — для кантактаў з рэжымам. Ва ўсякім выпадку, да прыкладу, Уладзімір Пятрочук, гайнаўскі староста на фейсбуку па гэтым пытанні выказаў такія меркаванні (падобныя ў дачыненні да іншых відаў дзейнасці на больш нізкім узроўні маюць польска-беларускія самаўрадавыя і гаспадарчыя і да г.п. дзеячы): «Мы ад гадоў супрацоўнічаем (мне здаецца, што з добрым эфектам) з беларускай мясцовай адміністрацыяй у рамках Еўрарэгіёна «Белавежская пушча». Мы не гаворым пра палітыку. Разам звяртаемся да еўрапейскіх фондаў, вядзем шырокае трансгранічнае супрацоўніцтва».

Таму я згодны са спадаром Міхалам Шчэрбам, сакратаром парламенцкай групы па Беларусі (дэпутата Тышкевіча), які на тэму групы дэпутата Чыквіна нядаўна сказаў: «Гэта беспрэцэдэнтны скандал і акцыя супраць польскага дзяржаўнага інтарэсу. Мы не можам пагадзіцца, каб польска-беларускія адносіны былі падняты да супрацоўніцтва з установамі недэмакратычнага рэжыму, у тым ліку беларускім парламентам. **Дэпутат Чыквін у папярэднім тэрміне імкнуўся стварыць двухбаковую групу з беларускім парламентам, аднак тагачасны маршалак Сейма Браніслаў Камароўскі заблакаваў гэтыя згубныя дзеянні. Цяпер спадар дэпутат выкарыстаў формулу стварэння парламенцкай групы, якая не патрабуе згоды маршалка і прэзідыума Сейма, а толькі прыняцця імі да ведама факту стварэння групы.** Цяжка зразумець гэтае імкненне дэпутата да кантактаў з функцыянерамі недэмакратычнага рэжыму.

Пры нагодзе дэпутат Шчэрба адзначыў і прыгадаў, што самым важным пытаннем у дзейнасці Польшчы ў дачыненні да Беларусі павінна быць адпаведнасць прыярытэтаў дзеянняў з боку ўрада, парламента і дыпламатыі: «Прыярытэты доўгатэрміновай знешняй палітыкі Польшчы ў дачыненні да Беларусі застаюцца нязменнымі на працягу многіх гадоў. Да іх адносяцца: падтрымка суверэннай і незалежнай Беларусі і фармаванне дэмакратычнага кіравання ў Беларусі».

**Як адзначыў ён у гутарцы з парталам «Онэт», парламенцкая група па Беларусі працуе ў Сейме ад трох тэрмінаў, яе дзейнасць мае шырокае прызнанне і давер, што таксама пацвярджаецца тым, што ў ёй прадстаўлены ўсе парламенцкія клубы — таксама Саюз дэмакратычных левых сіл, сябрам якога з'яўляецца Яўген Чыквін:**

— Нашай мэтай з'яўляецца падтрымка развіцця дэмакратычнай грамадзянскай супольнасці, у тым ліку незалежных асяроддзяў і СМІ. Я заклікаю ўлады СЛД звярнуць увагу на той факт, што планаваная дзейнасць дэпутата Чыквіна знаходзіцца ў супярэчнасці з дэкларацыямі і ацэнкамі сітуацыі ў Беларусі, выказанымі АБСЕ, Саветам Еўропы і Еўрапарламентам.

Я згодны, што парламенцкая дыпламатыя заключаецца на пабудове адносін, асабліва двухбаковых пагадненняў паміж парламентамі. Тым не менш, у адносінах да Беларусі на такія кантакты і супрацоўніцтва нельга пагадзіцца, таму што выбары ў Беларусі ў 2012 годзе — як нагадаў дэпутат Шчэрба — былі сфальсіфікаваны ў чарговы раз і прызнаныя АБСЕ недэмакратычнымі і несвабоднымі. На мой погляд, адсутнасць парламенцкіх адносін не павінна ўплываць на грамадзянскае супрацоўніцтва, незалежных арганізацый і сродкаў масавай інфармацыі, на мясцовае, рэгіянальнае, культурнае, а таксама камерцыйнае, такое, якое вядзе хаця б БГКТ ці Еўрарэгіён «Нёман».

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Пра паэму Міколы Несцярэўскага „Бацюты”

У Дзятлаве на 100-гадовых угодках заснавальніка мясцовага музея Міхася Петрыкевіча сустрэўся я з беларускім мастаком дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, керамістам, скульптарам, жывапісцам, сябрам Саюза беларускіх мастакоў Міколам Несцярэўскім, якога даўно ўжо не бачыў.

Мікола Лаўрэнцьевіч родам з вёскі Бацюты, што недалёка ад Беластока, мае ўжо 82 гады. Скончыў Гродзенскае культасветвучылішча (1959), Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут (1969). Працаваў інструктарам дома культуры, мастаком-афарміцелем на прамкамбінаце ў Дзятлаве, настаўнікам працы, малявання і чарчэння ў Дзятлаўскай школе, галоўным мастаком Івянецкай фабрыкі мастацкай керамікі і вышыўкі (1963-1965), вучэбным майстрам мастацкай керамікі Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута (1966-1969), мастаком Мінскага мастацка-прамысловага камбіната (1969-1991).

Творы Міколы Несцярэўскага (кераміка, скульптура, жывапіс) экспануюцца ў фондах Беларускага саюза мастакоў, Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Раўбіцкім музеі народнага мастацтва, Гродзенскім гістарычным музеі, Дзятлаўскім краязнаўчым музеі, у музеях за межамі Беларусі, знаходзяцца ў многіх грамадскіх памяшканнях і прыватных аматарскіх калекцыях. Мікола Лаўрэнцьевіч — аўтар дэкаратыўных пано і скульптур, якія ўпрыгожваюць станцыю метро „Плошча Якуба Коласа” ў Мінску, знаходзяцца ў паліклініцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, памяшканнях ВА „Інтэграл” і Мінскага аэрапорта № 2, кафэ „Бульбяная” (Мінск) і гастраноме „Мінск” у Валгаградзе (Расія). Стварыў вялікую колькасць скульптурных твораў, алейных палотнаў, медальерных партрэтаў, у якіх бачыцца Беларусь і яе Адраджэнне. У 1991, 1996, 2001, 2006 гадах у Палацы мастацтваў праходзілі яго юбілейныя выстаўкі. У Старадарожскім музеі экспануюцца партрэты-барэльефы ў кераміцы каралёў і князёў Вялікага Княства Літоўскага, дзеячаў першай хвалі Адраджэння і іншыя.

Пра Міколу Лаўрэнцьевіча Несцярэўскага і яго творчасць можна пісаць і разважаць шмат. Сёлета 3 жніўня ён падараваў Дзятлаўскаму краязнаўчаму музею свае новыя работы — керамічны партрэт народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, партрэт Міхася Петрыкевіча і карціну Якуба Коласа з дзятлаўчанамі. Калі Якуб Колас быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, то прыязджаў у 1954 годзе ў Дзятлава. Пра гэта памятае і сам мастак. Таму сустрэчу ён зафіксаваў і пакінуў на вялікім сваім палатне.

Падчас сустрэчы ў Дзятлаве Мікалай Лаўрэнцьевіч падараваў мне сваю паэму „Бацюты” ў рукапісе. „Няхай будзе табе на памяць”, — сказаў мастак. Вядома ж, ён далёка не паэт. Але ж кожны мае права на творчасць, на ўласныя выказванні, меркаванні, успаміны. У паэме няма паэтычнай рыфмы, парушаны вершаваны рытм і г.д., але ёсць думка, адчуваецца вялікая настальгія па маленькай радзіме на Беласточчыне. Ён нават пахваліўся, што адкрылі яму візу ў Пасольстве Польшчы ў Беларусі і ён з сынам у жніўні паедзе на Беласточчыну, „можа ўжо апошні раз”, як сказаў мастак. Амаль два гады гэты чалавек прасіўся-маліўся, што хоча падараваць Гайнаўскаму музею, беларусам Беластока свае працы, адкрыць выставы на роднай Беласточчыне, але так яму ніхто і не дапамог прыехаць на Беласточчыну, прывезці туды свае керамічныя творы.



Кіраўнік Слонімскага дэмакратычнага руху Іван Шэга і Мікола Несцярэўскі ў вёсцы Валеўка Навагрудскага раёна

Цяпер вернемся да паэмы „Бацюты”. Пачынаецца яна проста, шчыра і лёгка:

*Ёсць вёска Бацюты ў Польшчы на Беласточчыне,*

*Там за вёскай прыгажуня Нарварэчка цякла і цячэ.*

*У Бацютах жывуць мае родныя людзі, праваслаўнымі лічаць сябе.*

*У Бацютах я нарадзіўся, Мікалаем ахрысцілі ў Тапільскай царкве...*



Мікола Несцярэўскі дорыць партрэт Рыгора Барадуліна Дзятлаўскаму краязнаўчаму музею



Якуб Колас з дзятлаўчанамі. Праца Міколы Несцярэўскага

З першай страфы ўсё зразумела, каму прысвечана паэма. А прысвечана яна той зямлі, дзе Нарва цячэ, дзе жывуць родныя людзі Мікалая Несцярэўскага. Ды і ў Бацютах спрадвеку жылі бацькі Несцярэўскага, там пахаваны бацька — у „Тапільцу яго магіла”.

Аўтар паэмы прызнаецца, што „не па сваёй добрай волі на Беларусь я жыць пераехаў”, што ў Бацютах палякі з беларусамі заўсёды мірна жылі і сябравалі. Ён апісвае, што да Другой сусветнай вайны вельмі добра жылі вяскоўцы ў Бацютах:

*Да вайны, за тым польскі часам у Бацютах мы добра жылі.*

*Многа было ў нас зямлі, лонкі, паплавы, нават кавалачак лесу мелі.*

*Пяць кароў у нас было, коні, свінні, авечак таксама мелі,*

*У камору, бывала, як зойдзеш, там каўбасы, паляндвіцы і кумпякі віселі.*

Далей аўтар распавядае, хто чым з яго родных людзей да вайны ў Бацютах займаўся. Даволі цікавыя факты апісвае спадар Несцярэўскі:

*Дзядзька Піліп усё жыццё на зямлі працаваў, сыны Яўген, Лявон, Валянцін яму дапамагалі.*

*Дзядзька Міхась каўбасы вельмі смачныя рабіў і капціў, людзі елі, хвалілі.*

*Дзядзька Іван дубальтоўку меў — было шмат дзікіх качак і зайцоў...*

Пасля мірнае, спакойнае жыццё сапсавала вайна. У Бацюты прыйшлі немцы:

*Сваю справу немцы ў Бацютах рабілі, солтысам Юрку Ціслюка зрабілі.*

*Адукаваных людзей у Бацютах не было, таму Міколу Шайноўскага намеснікам зрабілі...*

Пазней, гэты самы Юрка Ціслюк выратуе Бацюты ад лёсу Хатыні. Бо аднойчы немцы зрабілі аблаву на Бацюты і хацелі ўсіх жыхароў вёскі знішчыць. Але солтыс Ціслюк не дазволіў гэтага зрабіць. Як піша ў сваёй паэме Мікола Несцярэўскі, „удалося Ціслюку немцам даказаць, што партызанамі былі не жыхары Бацютаў”. Дарэчы, Ціслюк у вёсцы меў 40 вулляў, немцаў мёдам частаваў, самагонкай паіў, бо немцы дужа любілі гэты спіртавы водар...

Сам аўтар добра памятае, як немцы паўсотню кароў на Кулёўшчыне ў статак забралі і пагналі за Нарву, а людзі стаялі, глядзелі і маўчалі, бо баяліся. А калі немцы адступалі, то праз Нарву мост узарвалі...

Апісвае ў сваёй паэме аўтар і Бацюты пасляваенныя. Што ён памятае — тое і апісвае, піша шчыра, чулліва і месцамі нават балюча. Хораша распавядае пра Нарву, пра птушак, якія там гнёзды заўсёды вілі. І скразной лініяй праз усе страфы паэмы праходзіць тужлівай лініяй настальгія па Бацютах:

*Хачу ў Бацютах пабываць, бо Бацюты — былая мая радзіма.*

*Братоў сваіх хачу паглядзець — Генадзя, Яўгена, Лявона і Валянціна.*

*Хачу на сясцёр паглядзець — Таісу, Людмілу, Крысціну.*

*Вы заўсёды са мною, сёстры мае — Вера, Надзея, Вольга, Галіна...*

— Чытаючы паэму Міколы Несцярэўскага, вельмі здзівілі мяне апошнія радкі твора. Мне здаецца я яшчэ нідзе не чытаў такіх ласкавых і пяшчотных слоў пра родную вёску. А Несцярэўскі, як роднае сваё дзіця, Бацюты называе так: Бацяні, Бацюні, Бацені, Бацечкі, Бацянькі, Бацюнькі, Бацюшкі, Баценькі, Бацюткі... Божа ж мой! Толькі за адны гэтыя словы можна радавацца за ўсю паэму пра беластоцкую вёсачку Бацюты, апетую мастаком Міколам Несцярэўскім. Дзякуй яму за гэта!

**Тэкст і фота Сяргея ЧЫГРЫНА**

## «Вэртэп» у Чаромсе

Ад пяці гадоў вандруе па Падляшшы тэатральная трупа міжнародных артыстаў. Іхнія спектаклі трапляюць у адлеглыя сёлы і мястэчкі польска-беларускага памежжа. Ініцыятарам і арганізатарам Міжнароднага тэатральнага фестывалю, бо аб ім гаворка, з'яўляецца Культурнае таварыства «Паштоўка» з сядзібай у Палічнай, якое ўзначальвае Дар'юш Скібінскі. Сёлета «Вэртэп» рушыў у вандроўку 26 ліпеня. Турнэ пачаў з Нараўкі, а закончыў у Гайнаўцы 4 жніўня. Выступаў у Чаромсе, Міхалове, Палічнай, Орлі і Белавежы.

У Чаромсе 27 ліпеня мне прыйшлося пабачыць два спектаклі: «Жыві здорава і калярова» і «Кухары на востра».

Спектаклі «Вэртэпу» — рэч незвычайная, непаўторная. Падзеі адбываюцца раз у пленэры, пад адкрытым небам, іншым разам — у зале. Арганізуюцца гульні і майстар-класы малечам, забавы з фокусамі для ўсіх — дзетак і дарослых. Пастаноўка «Жыві здорава і калярова» — тыповы таму доказ. Вядучы, а быў ім артыст Віктар Маліноўскі, паказваў забаўныя гісторыі, якія здарыліся ў час адпачынку ў курорце. Кампаньёнкамі яму былі беларусачка Наташа і палячка Дарота. Як ім гулялася на Кубе ў жары трапічнага сонца напамінала песня «Куба — выспа як вулькан горонца», якую выконваў вядучы.

Спектакль доўжыўся амаль гадзіну, і на маю думку, быў цікавай і прыемнай забавай.



Міжнародная кампанія (злева направа: Наташа, вядучы Маліноўскі і Дарота) у спектаклі «Жыві здорава і калярова



Малечы весела забаўляліся

Іншага віду спектаклем была п'еса «Кухары на востра». Гісторыя тычылася трох вайсковых кухараў, якія на манёўрах атрымалі задачу зварыць гарохавы суп. Немагчыма апісаць усе забаўныя гісторыі, якія траляліся паляку, рускаму і немцу, затым чэшскай санітарцы, пакуль яны выканалі сваю павіннасць — зварылі гарохавы суп. Шмат смеху выклікала свінка, якую яны хацелі зарэзаць. Круціла яна хвосцікам, махала лапкай і... дала драла. Нябаракі страцілі прытомнасць і ў дапамогу ім прыйшла чэшская санітарка. Усёй кампаніяй зварылі яны нарэшце гарохавы суп і частавалі ім гледачоў, але я не пакаштаваў, бо палічыў, што мой страўнік такога «смакоцця» перад начным адпачынкам не пераварыць (набліжалася 21:40). Позняя пара не дазволіла мне паглядзець чарговы спектакль «Гісторыі аб Дон Кіхоце» ў выкананні Брэсцкага акадэмічнага драматычнага тэатра, чаго вельмі шкадую. Мяне, адзінокага пенсіянера, прызывалі дамашнія абавязкі.

**Уладзімір СІДАРУК**

# XX Фестываль „Беласток — Гродна”




Як звычайна, так і сёлета, праводжаны па чарзе ў сталіцах Гродзеншчыны і Падляшша, Фестываль польскай і беларускай песні „Беласток-Гродна” прыцягнуў натоўп гледачоў. На беластоцкіх Плянтах былі крамкі з народным промыслам, літаратурай і кампакт-дыскамі. Перш за ўсё гэта музыка гучала са сцэны ў выкананні дзевятнаццаці ансамбляў польскай меншасці з Гродзенскай вобласці і беларускай з Беласточчыны.

Фестываль арганізавалі Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Культурны цэнтр Беларусі ў Польшчы пры дапамозе — як падкрэсліў Ян Сычэўскі, старшыня БГКТ — Гродзенскага аблвыканкама. Адкрываючы сёлетні фестываль, Ян Сычэўскі падкрэсліў:

— Мы павінны імкнуцца да таго, каб наладжваць дыялог паміж сабою. Каб прадстаўляць і шанаваць сваю нацыянальную спадчыну, каб шанаваць сваю народную песню, свае вытокі, свае абычаі і абрады. Мэтай гэтага мерапрыемства з'яўляецца якраз любоў да роднай мовы, да роднай песні, да роднай культуры і патрэба міжнароднага, міжнацыянальнага дыялогу. Тое што працягваецца тут 20 гадоў даказвае, што воля з боку меншасцей, з боку дзвюх дзяржаў існуе, каб дыялог працягваць, каб развіваць узаемныя кантакты, каб сумець шанаваць адзін аднаго і развіваць нашыя добрыя суадносіны паміж дзяржавамі і між меншасцямі.

Алёна Клімовіч ад імя Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта заявіла:

— Культура аб'ядноўвае беларусаў у Польшчы і палякаў у Беларусі, але разам з гэтым польскі і беларускі народы.

Канцэрт адкрыўся шоў ансамбля песні і танца „Васілёчкі” з Бельска-Падляшскага, які ў наступным годзе будзе адзначаць пяцідзесяцігадовы юбілей.

— Мы выступаем у складзе трыццаці адной асобы. На фестываль, на жаль, не ўсе прыехалі, — распавяла „Ніве” незадоўга да шоў Ніна Бялецкая. — Наш рэпертуар у асноўным беларускі і прывозіць яго нам дырыжор Мікалай Фадзін з Гродна. Хор да нядаўна складалі 22-24 чалавек, у цяперашні час павялічыўся на новых выканаўцаў, прытым з вышэйшай адукацыяй. Мы ганарымся гэтым. Якія сюрпрызы прадставім на гадавіну ў наступным годзе, вядома, я не магу сказаць, але напэўна пастараемся. Прадставім увесь наш рэпертуар.



Да „Васілёчкаў” далучылася, між іншым, настаўніца пачатковай школы ў Тапчэве Юлія Міранчук, выпускніца беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку. На Плянтах прызналася нам:

— Я люблю спяваць, і хоць я аматарка, хачу гэта рабіць больш прафесійна, таму я далучылася да „Васілёчкаў”. Люблю беларускую мову і такім чынам хачу яе расслаўляць.

З Беларусі прыехала некалькі ансамбляў, у тым ліку „Гудскі гармонік” з мясцовасці Гуды Лідскага раёна. Аляксандр Бучыла, як і іншыя яго члены, выступілі ў арыгінальных касцюмах, нагадваючых польска-шляхецкія, зробленых спецыяльна для каманды з нагоды свята ўраджаю, якое адбывалася ў Лідзе:

— Сюды мы прыбылі ў дзевяць чалавек. Выконваем традыцыйныя песні, родам з нашай мясцовасці. У нас таксама ёсць аўтарскія песні, якія рыхтуе наш менеджар Андрэй Калышка. У гэтым годзе наш ансамбль адсвяткаваў свой дваццаць пяты юбілей.

— Наш ансамбль так называецца, таму што асноўнымі інструментамі, на якіх тут іграем — гэта гармонікі, — прадстаўляў нам свой калектыў кіраўнік. — Прывезлі мы на канцэрт дзве польскія народныя песні і адну беларускую „Я па грыбы пайшла”, вядомую на нашай тэрыторыі.

Польскі дом у Лідзе прадставіў „Крэсавыя забавы”. У іх выкананні гледачы ўбачылі „кракавяка” і „Гуральскую сюіту” ды „Падляшскую сюіту”. Павел Некраш з Польскага дома (кіраўніцтва якога прызнаецца беларускімі ўладамі) у Лідзе і член ансамбля:

— На Фестываль прыехалі мы ў трэці раз. Наш Польскі дом не толькі займаецца папулярызацыяй польскай і беларускай музыкі і танцаў, але і шырокай прапагандай польскай культуры. У нас ёсць бібліятэка, адзначаем кожнае польскае нацыянальнае свята, арганізуем паездкі ў Польшчу і шмат палякаў прыязджае да нас.

У сваю чаргу са Старога Дварца Бераставіцкага раёна ўпершыню выступіў у Беластоку гурт „Верацейцы”, які дзейнічае пад кіраўніцтвам Аляксандра Бутрылы ўсяго два гады. Адна з яго спявачак, падобна як і многія іншыя артысты так з Гродзеншчыны, як і з Беласточчыны, звяртала ўвагу ў размове з „Нівай”:

— Найважнейшым у такіх падзеях з'яўляецца магчымасць аб'яднаць нашы народы, умацаванне дружбы паміж намі.

На адным са стэндаў з рукадзеллем сустрэлі мы Тамару Блудаву з Гродна:

— Я не спала пайночы, каб прыехаць сюды. Я мастачка па саломапляценні. Гэта нашае самае традыцыйнае народнае рамяство. Кожны дзень я раблю разнастайныя прадметы — ад капелюшоў, караляў, кошыкаў, велікодных яек да анёлкаў. Улетку езджу ў поле, сама кашу сярпом, затым чышчу салому, каб яе было дастаткова на цэлы год. Справа ў тым, каб салома была не толькі чыстай, але і яснай ды высокай.



XXI Фестываль „Беласток-Гродна” пройдзе ў наступным годзе ў Гродне.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**



# У ПАЭТЫЧНЫМ АГАРОДЧЫКУ Ў ГАРАДКУ

У распаленыя ліпеньскія дні (16-17.07.) Гарадок запрасіў у дом па вуліцы Хадкевічаў, 66, немалую групу паэтаў і дзеячаў культуры з усяе Польшчы, а нават Еўропы — сярод буйнага свежага квецця, вырашчанага паняй Міраславай Сяменчык. Тут былі прысутныя і свежыя кнігі таксама непрысутных творцаў. Мерапрыемства арганізаваў яе сын — Адам, аніматар культуры і паэт вядомы як заснавальнік „ПаЭзіі Лондан" і аўтар кнігі „Паэты маёй эміграцыі", у якой сярод пару дзесяткаў ягоных эсэ і вершаў эміграцыйных польскіх паэтаў ёсць і паэты пішучыя не на польскай мове, між іншым Міра Лукша з Польшчы і Элка Няголава з Балгарыі. У гэты раз не даехалі з Вены Яраслаў Войцех Паўлоўскі (гасцяваў нядаўна на Беласточчыне) і Іаанна Янда. Хто не даехаў — шкадаваў пасля ў сеціве.



Дэкламуе Раман Іванюк

Адам Сяменчык яшчэ раней паставіў у інтэрнэце жартаўлівае пытанне, ці не праўда гэта, што шчыльнасць пражывання паэтаў на квадратны кіламетр у Гарадку найбольшая: а) у Гарадоцкай гміне, б) у Польшчы, в) у свеце. А таму, што на сустрэчу былі запрошаны таксама аматары паэзіі, якія друкаваліся разам з Сяменчыкам у зборніку „Напісанае жыццём" — па-польску і па-беларуску, лацінкай; кнігу выдаў быў Гарадоцкі цэнтр культуры. Некаторыя аўтары таго зборніка добра вядомыя таксама чытачам „Нівы" — Адам Сяменчык дэбютаваў у нас афарызмамі, Станіслаў Дамброўскі з Сафіпаля ў мінулым годзе перамог вершамі ў конкурсе „Дэбют", а Анатоль Парэмбскі са Станцыі Валілы ў „Ніве" друкаваўся ад самага пачатку яе існавання, а ў апошні час выдаў тры кнігі лірыкі. Былі яшчэ і Раман Іванюк, і Роберт Шырынга. Запрошаны былі ўсе гарадоцкія аўтары, між іншым Янка Федзюкевіч, ды не ўсе дабраліся ў цэнтр гміны ў такія гарачыя ўдушлівыя дні, у якія, дарэчы, было шмат іншых культурных мерапрыемстваў. З Польшчы ў Гарадок прыехалі, між іншым, Стэфан Юркоўскі з Саюза польскіх літаратараў, Зофія Вайцяхоўская, Крыстына Бэзубік, Эва Зэленай, паэтэса і дзяячка, якія прывезлі таксама творы сваіх выдатных сяброў-літаратараў. Былі таксама культурныя дзеячы-аніматары і чыноўнікі, якія маюць дачыненне да культуры. Яны і вялі рэй у першы дзень сустрэчы. А ў суботу чыталася паэзія, гучалі песні і скрыпка Габрыелы Юліі Налівайкі.

— Ужо сшываецца мая кніга-казка для дзяцей „Місь", — паінфармаваў Адам Сяменчык, — на чатырох мовах, з карцінкамі, прыгожа выдадзеная. Запрапанавала гэта Эсперанцкае таварыства, мае да яе дачыненне і Падляшская ксёнжніца. Будзе яна таксама неўзабаве ў электроннай чытальні Ксёнжніцы. У лістападзе арганізуюцца сустрэчы ў Беластоку ў Ксёнжніцы, у Гарадку. Спадзяюся, што нашы сустрэчы прынясуць плён у іншых праектах. Асобы, якія выступалі на нашай сустрэчы, пакажуцца таксама ў гарадоцкай школе, у доме культуры.

Эва Вайцяхоўская: — Гэты паэтычны пленэр, у якім мы прымалі ўдзел, звязаны таксама з незвычайным тутэйшым рукадзеллем, капамі, развешанымі па ўсім доме і ў агародзе, атмасферай, кухняй, таксама пагранічча, незвычайнымі для нас з цэнтральнай Польшчы стравамі, падрыхтаванымі спадарыняй Міраславай і яе сяброўкамі. Гэта таксама мастацтва — кулінарнае. Сярод агародавых кветак — у Гарадку — у агародчыку, сярод незвычайных карцін Адама Сяменчыка — гэта сапраўды незвычайная сустрэча моў і паэзіі.

— Маем цяпер канкрэтныя рэзультаты нашых спатканняў, — заўважыў Адам Сяменчык, на захапленне кіраўніка Культурнага цэнтра Беларусі Эдуарда Швайко, які супраўцоўнічаў пры мінулагоднім Фестывалі славянскай паэзіі, — бо маюць быць сёлета выдадзены дзве анталогіі — польскіх паэтаў на беларускай мове і беларускіх — на польскай.

— Праз гэты малы свет Гарадка, малога Падляшша, гэтыя творцы могуць паказаць тое, што ў іх найважнейшае, і гэта можа быць паказана ў Еўропе, — заўважыў Эдуард Швайко. — Ці ў Парыжы, ці ў Мінску... Тое, што ёсць тутэйшым багаццем і мае сваю каштоўнасць не толькі для іх саміх.

— Такія сустрэчы „на падворку" маюць іншы смак чым у ГОКу, — заўважыў Раман Іванюк. — І без усялякага ўтамляльнага афіцыёзу. Маем тут адзінага госця-дыпламата. А сустрэча — такая файная, суседская. Калі сустракаюцца людзі, якія штосьці ствараюць, не мае значэння адкуль яны, на якой мове пішуць. Калі хтосьці чытае, наступае цішыня, калі хтосьці спявае — ёсць засяроджанне, вялікая ўвага да таго, што скажа іншы. Узаемная павага. Такая добрая сіла. І гэта адчуваецца. А наконт паэтычнай групы „Каласы"... Няма нашага святой памяці лідара, Кастуся Казлоўскага. З той нашай групай у апошні час слабавата, бо як няма шэфа — група падупала... Але можа дапаможа нам і Адам, які „склікае" нас, маем нагоду сустракацца. „Жыццём напісана" — гэта пакуль наша супольная адзіная кніга. Ці будзе наступная, гэта залежыць не так ад нас, як ад тых, хто дзейнічае ў культуры.

— Наша сустрэча будзе мець далейныя пазітыўныя водгукі, — кажа Адам Сяменчык. — Ёсць запатрабаванне на такія спатканні. У пятніцу адбылася сустрэча, прысвечаная здабыванню грошай на культуру, у прыватнасці на літаратуру. І тут галоўнай такой постаццю была пані Эліза Шадкоўская, працаўніца Маршалкоўскай управы ў Беластоку, спецыялістка па еўрасаюзных фондах. Сустрэча працягвалася тры з палавай гадзіны! Былі і паэты, і дзеячы. З Беластока была яшчэ Эва Кульён, з „функцыйных" асоб — паэт, але і віцэ-старшыня Саюза польскіх літаратараў з Варшаўскага аддзела — Стэфан Юркоўскі, Кацярына Рогач з гарадоцкай бібліятэкі, Ірэна Матысюк з гарадоцкай школы, Зофія Вайцяхоўская з Мрангова, якая таксама рэалізуе шэраг праектаў, у Польшчы і міжнародных. Можна было падзяліцца вопытам. Аказалася, што так і паэты, як і малыя ўстановы, як, скажам, бібліятэка, але і вялікія мерапрыемствы, могуць здабыць дафінансаванне. Калі навучымся здабываць грошы на культурную дзейнасць, штосьці можа ўзнікнуць. Калі хто не мае такой умеласці, шмат падзей і магчымасцей страціць, не заіснуе. А грошы можна здабыць ад 200-300 злотых на аўтарскую сустрэчу, да сродкаў недзе ў 200 тысяч еўра на большыя культурныя праекты, і яны ў нашым абсягу. Для гэтага патрэбная часта каардынацыя, супраца, нейкія фармальныя згуртаванні, фонды ці партнёры са сферы культуры. Сутыкненне літаратуры і грошай важнае, і трэба навучыцца пра гэта гаварыць і ў гэтым абшары дзейнічаць. Яшчэ раней мы мелі афіцыйнае спатканне, у нашай царкве, дзе нас сустрэў настаяцель нашага прыхода айцец Мікалай Астапчук. Тут запісвалася радыёперадача на радыё Wnet, на тэму гісторыі гарадоцкай царквы як будынка, паліхроміі Ежы Навасельскага, ікон, іканастаса, праваслаўнай сімволікі. Гэта для нашых гасцей было вельмі цікавым, адкрывала ім вочы на наша старонне. А мы маем запрашэнне на Варшаўскую восень паэзіі.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

## Дубы-патрыярхі

Шматвяковымі прыгожымі дубамі можна захапляцца. Як жа часта іх малявалі вядомыя мастакі. Карціны з імі ахвотна куплялі ды і зараз купляюць жыхары гарадоў у свае гарадскія кватэры. Дубы-каралі цешаць нас сваёй прыгажосцю і магутнасцю. У лясах Белавежскай пушчы і зараз сустрэнем легендарныя калосы. У іх тоўстыя ствалы, кара і галіны, прыгожае лісце. Асабліва прыгожыя велічныя дубы — помнікі прыроды. Ёсць дуб-цар.

Каралеўская сям'я дубоў (іх тут больш дваццаці) знаходзіцца ў Старой Белавежы. Гістарычна-прыродазнаўчую сцяжыну „Шлях каралеўскіх дубоў" заснаваў захоплены пушчай ляснічы Яцэк Высмулэк. Цікавае гэтае месца са зборышчам шляхетнай пароды ліставых дрэў — адзінае такое ва ўсёй Еўропе. Тут магутны, у некалькі тон стары дуб зваліўся восем гадоў таму. Нядаўна два дубы ссеклі ў Гайнаўцы пры вуліцах Паркавай і 3 Мая. Адзін быў стары і засох (на старасць нічога не парадзіш, нічога вечнага няма ў прыродзе і трэба з гэтым пагадзіцца), а другога, таго высокага і стройнага, скруціў віхор. Здаравенны і высокі рос ён адзінока побач сталовай каля мэблевай фабрыкі.

Векавыя дубы-волаты растуць ва ўрочышчы Вілы, там дзе прытокі Брашча і Гвозьна ўліваюцца ў раку Нараўку. Дубовыя гайкі варожаць вока ў Свінароях, каля Пераходаў і ў Гнільцы ды паасобныя дрэвы ў Нараўцы і ў наваколлі вёскі Плянта. На тэрыторыі Гайнаўскай гміны разгалінастыя дубы, якім некалькі соцень гадоў, цешаць нас сваёй спакойнай прысутнасцю і магутнасцю каля Ліпін, Лазіц, Пастолова і Смалянога Садка.

Ціхі зялёны горад Гайнаўка на перыферыі з двух бакоў спалучаны з пушчай. У ім захаваліся прыгожыя дубы пры вуліцах Белавежскай, Паркавай, Пілсудскага, 3 Мая, Дзевятоўскага, Арміі Краёвай і іншых. На некаторых з іх начэплены спецыяльныя зялёныя значкі, прызначаныя для помнікаў прыроды.

## Па гарачых слядах

У Гайнаўцы аўтобусы гарадской камунікацыі ездзяць на дзвюх лініях. На шматлікіх аўтобусных прыпынках пабудавалі трохсценныя прыстрэшкі. Усе яны на задніх сценках маюць прымацаваныя расклады язды гарадскіх аўтобусаў.

Але вось чаму якраз на задняй сценцы — невядома. Не для ўсіх удаецца прачытаць той расклад над галовамі сядзячых на лавачцы людзей, якія — часта так бывае — ставяць яшчэ перад сабой пакункі. Гэтак адны другім перашкаджаюць. Дык чаму не замацаваць расклад на бакавой сценцы? Гэта падаем пад развагу дырэктару Прадпрыемства гарадской камунікацыі ў Гайнаўцы.

Для прыкладу, у Беластоку, там дзе ёсць расклад язды аўтобусаў на задняй сценцы прыстрэшка (а зараз вельмі рэдка гэтак здараецца), тады пад раскладам няма лавачкі. У ваяводскім горадзе расклады знаходзяцца перш-наперш на бакавой сценцы прыстрэшка, або побач яго на спецыяльным для гэтага слупіку. Ніхто нікому не замінае. І гэтак выгадна для ўсіх. А ўжо перш за ўсё для слаба відучых.

(яц)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Тры бярозы

Даўным-даўно ў Беларусі, каля рэчкі Дзвіны, раслі тры бярозы-сястрыцы. Яны былі вельмі прыгожыя. Першую звалі Беларусачкай, малодшую сястру — Купалінкай, найменшую — Ночкай. Аднаго разу ў летні сонечны дзень яны стаміліся ад спякоты і заснулі салодкім сном. А калі прачнуліся — напалохаліся. Яны былі ў старой клуні.

Купалінка сказала:

— Ой, Божа, мой Божа! Куды мы папалі?

— Мы ў нейкім гумне, тут побач яшчэ дубы і сосны, — прыкмеціла Беларусачка.

— Я баюся! Я хачу дамоў! Дапамажыце нам! — пачала крычаць Ночка.

— Не бойцеся, сёстры — прамовіла Беларусачка. — Заўтра ўсе мы станем яшчэ прыгажэйшыя...

Наступнай раніцы, калі бярозкі разбудзіліся, пабачылі сяброў-дубоў. Іх везлі ў дзіўны пакой, на смерць. Адзін з дубоў крыкнуў:

— Не бойцеся! Гэтая смерць прыемная. Да пабачэння!

— Да пабачэння, дубочак! — развіталіся сумныя бярозкі. Яны не ведалі, што з імі зробяць людзі і вельмі баяліся...

*(працяг будзе)*

*Вераніка Кардзюкевіч*
*і Габрыеля Торка — вучаніцы*
*Непублічнай школы свсв. Кірылы*
*і Мяфодзія ў Беластоку*

# Сустрэча пры беларускай мяжы

На чацвёрты дзень Сустрэч „Зоркі” мы паехалі на экскурсію ў Навасады, што ў Міхалоўскай гміне. Вёска знаходзіцца пры самой мяжы з Беларуссю. Там нас сустрэў журналіст Цэзары Галінскі. Спецыяльна пад наш прыезд ён падрыхтаваў вогнішча. Ля вогнішча мы размаўлялі аб працы на тэлеканале „Белсат”. Мы даведаліся, што спадар Галінскі навучыўся размаўляць па-беларуску, каб паказаць сваю пашану для беларусаў, якія змагаюцца за незалежнасць сваёй краіны.

*„Галерэя Тамары”*

## Вершы Віктара Шведа

### Запасное кола

Татулька ў горад з сынам
Паехалі аўтамашынай.
— Вальней едзь, просіць Мікола,
Можа ўварвацца нам кола.

Тата спавольніць не хоча:
— Не непакойся сыночак.
Здарыцца нешта такое —
Дык маем мы запаснoе.

### Баіцца мой дзедка

Запыталіся Казіка:
— Ці на перыяд канікул
Не баішся, непаседа,
Застацца са сваім дзедам?

— Нічога я не баюся,
Выезду не адракуся.
Толькі мой дзедка баіцца
Сапраўды вельмі баіцца.

## Загадка № 34-13

**Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку” да 5 верасня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

*Малы малышак*
*Зваліўся з вышак.*
*Не так пабіўся,*
*Як шапачкі забыўся.*

**Адказ на конкурс-загадку № 23-13: Ручай. Узнагароды — майкі з лагатыпам Радыё Рацыя — выйгралі Наталля Нікалаюк і Зузанна Мішчук з Арэшкава. Віншуем!**



Фота Ганны КАНДРАЦЮК



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Âî÷û ïî¢íûÿ æàðó!


Фота Ганны КАНДРАЦЮК

***Інтэрв'ю з беларускай паэтэсай і журналісткай Мірай Лукшай, ураджэнкай вёскі Баравыя, што ў Нараўчанскай гміне.***

*„Людзі Тамары Саланевіч": — Ці Вы, будучы малой дзяўчынкай, хацелі стаць пісьменніцай?*

**Міра Лукша:** — Здаецца, не. Я пачала пісаць ужо ў пятым класе пад кірункам сваёй выхавацелькі. Я, здаецца, заўсёды хацела запісваць свае думкі словамі.

*ЛТС: — Хто з настаўнікаў найбольш паўплываў на Вас?*

**МЛ:** — Многа настаўнікаў з пачатковай школы, а пасля з ліцэя. Усе тыя, якія любілі і захапляліся літаратурай.

*ЛТС: — Як сябры ўспрымалі Вашую творчасць?*

**МЛ:** — Добра. Яны падтрымлівалі мяне, ганарыліся, што я пішу.

*ЛТС: — Ці ў Вашай вёсцы Баравыя і ў Нараўчанскай гміне ведаюць Вашую творчасць?*

**МЛ:** — Думаю, што некаторыя ведаюць. У нядзелю я была ў Міхалове і да мяне падышла старэйшая жанчына. Яна пачала мне прыглядацца і ў пэўны момант сказала: „То вы будзеце Міра Лукша!". Кажу — так. Аказалася, яна ведала на памяць некаторыя мае вершы.

*ЛТС: — Ці Вы любіце больш пісаць для дзяцей, ці можа для дарослых?*

**МЛ:** — Я больш люблю пісаць для дзяцей, гэта больш мяне захапляе. Калі пішаш для дзяцей, трэба думаць як дзіця, трэба звяртаць увагу на дробязі.

*ЛТС: — Ці больш задавальнення прыносіць Вам праца журналіста ці літаратара?*

**МЛ:** — Паэтычная творчасць — гэта не праца! З ае няма хлеба. Часам можна напісаць толькі адзін добры верш у год. Творчасць — гэта самавыяўленне.

*ЛТС: — З якога твора Вы найбольш задаволены?*

**МЛ:** — З „Ката Мікіты", вядома!

*ЛТС: — Ці верш пра коціка напісалі Вы для кошкі Ксені?*

**МЛ:** — Не, ён паўстаў для коціка Філі. Ксеня ў мяне ад трох з паловай года.

*ЛТС: — Вы напісалі верш пра Тамару Саланевіч. Як гэта атрымалася?*

**МЛ:** — Я вельмі захаплялася асобай Тамары Саланевіч. Яна была мне ўзорам, гэта быў проста добры чалавек.

*ЛТС: — Вы яе ўспамінаеце?*

**МЛ:** — Тамара Саланевіч запісвала рэчаіснасць з дапамогай камеры. Яна была фанаткай сваёй працы. Яна мела вочы поўныя жару. Гэта была чароўная жанчына.

*ЛТС: — Ці людзі з Вашых ваколіц гаварылі пра фільмы Тамары Саланевіч?*

**МЛ:** — У іх іграла многа людзей з нашых вёсак, напрыклад, з Меляшкоў, ёсць сцэны запісаныя ў Семяноўскай царкве.

*ЛТС: — Ці ў Вашых ваколіцах многа было такіх чараўніц, як у „Нараўчанскай баладзе"?*

**МЛ:** — Мне здаецца — няма. Некаторыя вёскі мелі сваіх „чараўніц", якія замаўлялі ад ветру, ад перапалохаў. Аднак ніхто не гаварыў пра такіх жанчын „чараўніца". Яны лячылі словам, дапамагалі бедным людзям. Нашыя людзі паважалі такіх асоб.

*ЛТС: — Ці тое, што ў Вашай роднай гміне так многа паэтаў, неяк паўплывала на Ваш творчы рост?*

**МЛ:** — Гэта добра на мяне паўплывала. Было прыемна апынуцца сярод творчых людзей. Тое, што ў нашых вёсках былі паэты, напаўняла мяне гонарам.

*ЛТС: — Як Вам спадабаўся мюзікл на аснове „Жывінак з глыбінкі" ў выкананні нашых сяброў з беластоцкай „чацвёркі"?*

**МЛ:** — Вельмі мне спадабаўся. Там была дакладная інтэрпрэтацыя вершаў, чароўная музыка, добрая акцёрская ігра і многа гумару.

*ЛТС: — Якія рады можаце даць маладым паэтам?*

**МЛ:** — Пісаць. Проста пісаць. Публікаваць свае творы. Сустракацца з іншымі і размаўляць пра творчасць. Чытаць добрую літаратуру. Высылаць свае творы ў „Зорку".

*Інтэрв'ю запісанае ў час 27 Сустрэч „Зоркі" ў Новым Ляўкове*

## Яблычныя блінчыкі Людмілы

*Прадукты:*
*1,5 шклянкі малака,*
*1 яйка,*
*шчопаць солі,*
*0,5 лыжачкі пітнай соды,*
*3 яблыкі,*
*мукі столькі, каб было густа.*

*Вымешаць усе кампаненты. Цеста класці на патэльню вялікай лыжкай. Смажыць на раслінным алею.*

*Крыстыян Паскробка — „Людзі Тамары Саланевіч".*

## Польска-беларуская крыжаванка № 34

Planeta
No
Głos
Tamara
Mięta
Oko
Koral
Re
Nerka
Pępek
Tom
Polana
Kosz
Motyl
Warkocz
Utwór
Ty
Szachy

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 30:** Рамка, моц, прымак, буслік, вяз, крок. Клуня, Марс, малы, Макар, сок, ток.

*Родам з Беласточчыны*

# З Мельніка ў Коматава

У метрычных кнігах царквы ў Мельніку за 1886 год запісана, што 2 лютага гэтага ж года нарадзіўся, а 3 лютага быў ахрышчаны Іосіф, сын Сімяона Восіпавіча Амельяновіча і яго законнай жонкі Галены Фаўстаўнай. Хроснымі бацькамі былі адстаўны унтэрафіцэр Іван Крупіцкі і Анна Іваноўская, а хрысціў свяшчэннік Іосіф Сасноўскі з псаломшчыкам Данілам Трацэвічам.

Іосіф Амельяновіч нарадзіўся ў Мельніку і тут прайшло яго дзяцінства. Адукацыю атрымаў у Бельскай настаўніцкай семінарыі, якую закончыў у 1906 г. Далейшую вучобу працягваў у Віцебскім настаўніцкім інстытуце, які закончыў у 1913 годзе. Пасля заканчэння інстытута стаў працаваць настаўнікам у вышэйшым навучальным вучылішчы ў сяле Лыскава Ваўкавыскага ўезда Гродзенскай губерні.



По Указу ЕГО ИМПЕРАТОРСКАГО ВЕЛИЧЕСТВА, САМОДЕРЖЦА ВСЕРОССІЙСКАГО, Гродненская Духовная Консисторія согласно опредѣленію своему, выдаетъ настоящее свидѣтельство въ томъ, что въ числѣ [illegible] по метрическимъ книгамъ [illegible] 1886 годъ въ 1 части подъ № [illegible] имѣется слѣдующая запись: „[illegible]“

[illegible] 1913 года.

[illegible]

Витебскимъ Учительскимъ Институтомъ выданъ аттестатъ на званіе учителя

Пасля выбуху Першай сусветнай вайны быў прызваны ў войска. На фронце знаходзіўся да 1918 года. У студзені 1917 года ў Старым Асколе Курскай губерні ажаніўся з Вольгай Рамановіч, дачкой настаўніка. Пасля дэмабілізацыі працаваў у працоўнай школе другой ступені ў горадзе Лыскава Ніжагародскай губерні. 30 сакавіка 1919 г. нарадзілася яму дачка Ірына, а 1 ліпеня 1926 г. — сын Віктар.

У 1920-1922 гг. Іосіф Амельяновіч ваяваў у радах Чырвонай Арміі. Вярнуўся з сям'ёй у Мельнік. Тут, на бацькаўшчыне, займаўся гаспадаркай, працаваў у пачатковай школе ў Вайтковічах (цяпер вёска знаходзіцца ў Цеханавецкай гміне). У тым часе прымае ён рашэнне прысвяціць сябе службе Праваслаўнай царкве. Ён звяртаецца да архіепіскапа Гродзенскага і Навагрудскага Алексія (Грамадскага) з просьбай прыняць яго ў лік духавенства Гродзенскай епархіі і рукапалажыць у сан іерэя. Пры гэтым абяцае прысвяціць усе свае сілы на карысць Праваслаўнай царквы. На гэтым прашэнні знаходзіцца рэкамендацыя свяшчэнніка Лявонція Петрапаўлаўскага (настаяцеля Мельніцкага прыхода ў 1912-1915 і 1920-1925 гг.), у якой адзначана, што Іосіф Амельяновіч прымаў удзел у клірасным спяванні і чытанні. У верхняй частцы прашэння стаіць рэзалюцыя архіепіскапа Алексія: „Согласен рукоположить просителя во иереи в церкви Виленских мучеников г. Гродно”. Гэтая царква знаходзілася ў доме архірэя. 28 ліпеня 1928 г. Іосіф Амельяновіч быў рукапаложанны ў сан дыякана, а 5 жніўня ў Гродзенскім Свята-Пакроўскім кафедральным саборы — у сан прэсвітара.

У 1928-1930 гг. а. Іосіф Амельяновіч замяшчаў настаяцела ў сяле Волпа. З 15 красавіка 1930 г. замяшчаў настаяцеля, а 1 чэрвеня 1931 г. сам стаў настаяцелем Спаса-Праабражэнскай царквы ў сяле Коматава (цяпер Абухаўскага сельсавета Гродзенскага раёна Гродзенскай вобласці). Храм у той час стаў цэнтрам граматы і асветы. Айцец Іосіф, настаўнік па адукацыі, у кароткі тэрмін стаў шанаваным пастырам у Коматаўскім прыходзе. У 1938 г. у Коматава быў накіраваны псаломшчык Пётр Нэнчык, які разам з а. Іосіфам арганізаваў царкоўны хор з мясцовай моладзі. Захавалася фатаграфія, на якой увекавечаны ўдзельнікі хору са сваім настаяцелем і псаломшчыкам.

З прыходам саветаў у 1939 г. усе царкоўныя будынкі былі нацыяналізаваны і перададзены калгасу „Перамога”. Нягледзячы на перашкоды, чыненыя савецкай уладай, айцец Іосіф працягваў добрасумленна служыць у карысць свайго храма.

Пачалася нямецка-савецкая вайна. Моладзь сяла Коматава (31 чалавек), у тым ліку сын айца Іосіфа Амельяновіча, Віктар, былі вывезены немцамі на прымусовыя работы. Трагічны дзень настаў у перыяд нямецкай акупацыі 27 сакавіка 1944 г. усе астатнія жыхары Коматава былі выведзены на расстрэл. Немцы сабралі ўсё дарослае насельніцтва, выстраілі ў шэраг па 4 чалавекі, акружылі іх і ўстанавілі кулямёты. Сярод іх былі свяшчэннікі Коматаўскага храма — протаіерэй Іосіф Амельяновіч і дыякан Барыс Уткін з матушкамі. Перакладчык тлумачыў насельніцтву загады нямецкай камендатуры на польскую мову. Паколькі старэйшыя людзі не ведалі польскай і нямецкай моў, айцец Іосіф перакладаў загады для сваіх прыхаджан на беларускую мову. Айцец Іосіф дасканала ведаў польскую і нямецкую мовы. Паколькі перакладчык рабіў памылкі, стаў ён сам непасрэдна размаўляць з нямецкім камандаваннем. Сказаў, што ён, як свяшчэннік, дае гарантыю, што ніякіх партызан у сяле няма. Пасля праверкі высветлілася, што сапраўды ў вёсцы няма партызан, і немцы ўсіх адпусцілі. Па ініцыятыве протаіерэя Іосіфа Амельяновіча дыяканам Барысам Уткіным была напісана Коматаўская ікона Божай Маці ў азнаменаванне выратавання жыхароў Коматава ад смерці.



Коматаўскі хор

Прыхаджане са сваім пастырам годна прынялі ганенні пасля вайны, якія абрынуліся на Праваслаўную царкву і яе вернікаў. У 1952 г. Скідальскі райвыканкам вырашыў царкоўны дом, у якім жыў а. Іосіф, перадаць школе. Але школе ў Коматаве гэты будынак не быў патрэбны і айцец Іфосіф жыў у ім далей. Тады старшыня райвыканкама загадаў пісьмова мясцоваму міліцыянеру выселіць свяшчэнніка і самому заняць кватэру. Але міліцыянер гэтага загаду не выканаў, паколькі не было ўказана куды выселіць настаяцеля Коматаўскага прыхода, а высяляць на вуліцу не дазвалялася законам. Такія нялюдскія адносіны да свяшчэнніка застаўлялі прыхаджан ставаць у абарону свайго душпастыра. І ён адпавядаў ім сваёй узаемнай любоўю. Цяжкая была служба у той перыяд.

У 1960 г. Савет па справах Рускай Праваслаўнай Царквы пры Саўміне СССР зняў з уліку дзейсныя цэрквы ў вёсках Саволеўка, Жараслаўка, Коматава, Котра, Губінка, Закрэўшчына, а Гродзенскі аблсавет згаданыя прыпісныя цэрквы перадаў Скідальскаму райвыканкаму для выкарыстання пад грамадскія патрэбы паводле свайго меркавання. У выніку былі разбураны могільнікавыя цэрквы ў вёсках Коматава і Саволеўка.

20 чэрвеня 1962 г. указам архіепіскапа Мінскага і Беларускага протаіерэй Іосіф Амельяновіч выў вызвалены ад абавязкаў настаяцеля і высланы на пенсію. У выніку новага настаяцеля не прызначылі, а царкву закрылі. Айцец Іосіф не мог зразумець адната: да прызначэння новага настаяцеля ён мог бы яшчэ служыць. Прыхаджане ездзілі ў Мінск з просьбай аб прызначэнні на прыход настаяцеля, але дабіліся толькі таго, што прызначалі ім часовых настаяцеляў, паколькі не было для іх жылля. У 1963 г. настаяцелем Свята-Праабражэнскага прыхода ў Коматаве назначылі а. Барыса Уткіна, а дом яму знялі ў Пужычах.

Будучы на пенсіі, а. Іосіф Амельяновіч прыдбаў сабе дом і жыў з матушкай у Коматаве. З часам прывык ён да сваёй адстаўкі, і так як і раней наведваў царкву і заўсёды ўдзельнічаў у клірасным спяванні царкоўнага хору.

Протаіерэй Іосіф Амельяновіч памёр 6 кастрычніка 1976 г. Пахаваны на могільніку ў Коматаве.

**Васіль СЯМКО**

# На Ганну ў Крушынянах

Свята ў гонар святой Ганны асацыюецца ў нас са Старым Корнінам, дзе да бежанства была цудадзейная ікона Прасвятой Дзевы Марыі, якая лічылася копіяй іконы, знойдзенай у 1683 годзе ў Лясной, што каля Белай-Падляшскай. У Стары Корнін з'язджаюцца шматлікія вернікі з шырокага наваколля. А як маецца справа ў іншых мясцовасцях, дзе таксама адзначаецца гэтае свята? Падаўся я ў Крушыняны...

Першае здзіўленне засцігла мяне ў Саколцы: няма ўжо там ранейшага аўтавакзальнага барака — на свежанькім месцы ад яго яшчэ не ўспела вырасці ніводная травінка. І пэкаэсаўскія аўтобусы спыняюцца цяпер перад чыгуначным вакзалам, ранейшае месца саступаючы „Ваяжору". На аўтобусе ў святочныя Крушыняны еду толькі я; у міжчасе дзве жанчыны пад'язджаюць толькі кароткія адрэзкі па трасе маршрута...

У Крушынянах спачатку кіруюся ў напрамку знакавай для гэтай мясцовасці мячэці, узведзенай у 1846 годзе. У ранішні час запыняецца побач і легкавушка з пазнаньскай рэгістрацыяй. Неўзабаве чую воклiч:

— **Mieciu! Zobacz! Tutaj był książę Karol!**

Згадка пра прынца Чарльза напэўна з'яўляецца немалой сенсацыяй, паколькі ён, першы наследнік брытанскага трону, здаецца ўвесь час знаходзіцца на другім плане, спіхваны туды то сваёй маці — даўгавечнай каралевай Лізаветай, то прынцэсай Дыянай — да і пасля ейнай смерці, то цяперашняй прынцэсай Кейт, якая толькі што нарадзіла чарговага наследніка...

Насупраць мячэці славутая „Татарская юрта", пра якую з вялікім смакам пісалі яе ніўскія наведвальнікі. Перад юртай высокі слуп са шматлікімі рознакаляровымі гарызантальнымі паказальнікамі адлегласцей у розныя слаўныя мясціны, абмежаваныя пакуль што толькі да нашай планеты; магчыма, што з ходам міжпланетнага прагрэсу паявяцца там і вертыкальныя паказальнікі...

На будынку колішняй школы цяпер шыльда „**Dworek pod lipami**". А далей яшчэ адна гасцявальная ўстанова, якая зноў вабіць мінакоў татарскімі прысмакамі. Магчыма, што ў Крушынянах ёсць іх больш. І яшчэ адна асаблівасць знакавай у нас татарскай вёскі — гаспадарка, дзе водзяцца не традыцыйныя для Сакольшчыны моцныя цяглавыя мужыцкія коні мясцовай пароды, але коні-арыстакраты арабскага вываду для вершніцкай насалоды.

Кіруюся ў бок мясцовай царкоўкі, якая, на падабенства прынцу Чарльзу, прыхаваная там на другім плане. Калі б трапіла туды згаданая пазнаньская сямейка, магчыма што раздаўся б воклiч: „**Mieciu! Zobacz! Tutaj jest cerkiew!**". Па асфальтоўцы ў напрамку царкоўкі памаленьку тэпае пажылая пара. Жанчыне, якой пад дзевяноста, цяжка ісці і яна абапіраецца на мужавай падтрымцы; а калі такой магчымасці няма, то яна ходзіць з мыліцай. Відаць, што сужонства самотненькае і яны ўскладваюць сваю цяперашнюю надзею на ўзаемную падтрымку. Заўважаю немнагалюднасць перад царкоўкай, а яны тлумачаць мне, што гэта з прычыны будзённага дня, бо калі свята выпадала ў вольны ад працы дзень, народу ў Крушыняны з'язджалася многа. А на звычайнае набажэнства ў царкоўку заходзіць каля дзесятка вернікаў. Суразмоўцы інфармуюць мяне, што ў Крушынянах свой святар, які там пастаянна жыве і нікуды не хоча адтуль перяязджаць; ягоная матушка працуе, ён мае яшчэ прыход у Юраўлянах і ім так добра...



Царква ў Крушынянах

Крушынянская царкоўка стаіць пасярэдзіне абведзеных каменным муром невялікіх могілак. Пабудавана яна ў 1985 годзе на месцы ранейшай, драўлянай з 1829 года, якая згарэла трыццаць гадоў таму. Тамашнія могілкі ўражваюць сваёй адметнасцю — мусульманскім уплывам у выглядзе старых намагільнікаў — гэта расколатыя валуны з замацаваным наверсе жалезным праваслаўным крыжам. Новыя намагільнікі такога ж дызайну як і ўсюды, глабалізаваныя на мясцовы паказальніцкі лад; татарскія таксама... Перад могілкамі абавязковыя для прыхадскога свята ларкі з ласункамі і дзіцячымі цацкамі цярпліва чакаюць пакупнікоў.

Побач царквы часта пахаваныя святары, але ў Крушынянах толькі адна святарова магіла. Пахаваны там а. Рафаіл Чыстоўскі, які ў Крушынянах служыў з 1972 года да смерці ў 1978 годзе; у мой вучнёўскі час быў ён настаяцелем Ляўкоўскага прыхода. Тады, у позния 1950-я гады, было дазволена навучанне рэлігіі ў школах і ён быў адзіным маім настаўнікам гэтага прадмета. Цікавілі мяне тады таксама ўрокі каталіцкай рэлігіі і нараўчанскі ксёндз пачаткова дазволіў групцы праваслаўных дзяцей прысутнічаць на іх. Аднак у гэтай групцы аказаўся адзін гарэзнік і з-за яго ксёндз у парадку калектыўнай адказнасці выдварыў усіх „іншаверцаў". Той жа сам гарэзнік прабаваў падарваць павагу прадмета і на ўроках а. Чыстоўскага, а ён жа не мог паказаць дзвярэй „аднаверцу". Тады а. Рафаіл сунуў веселуну палец пад нос з заклікам: „Смейся! Ну, смейся!". Метад спрацаваў паспяхова, хаця ў той час яшчэ прымяняліся ў школах і метады фізічнага ўздзеяння на жульё, якія, як мне здаецца, яшчэ захаваліся ў дзяржаве, кіраванай продкамі згаданага прынца Чарльза.

Набажэнства пачынаецца няспешна, бо і вернікі быццам не спяшаюцца ў царкоўку. Правіць сакольскі благачынны а. Уладзімір Місяюк у саслужэнні некалькіх навакольных святароў. Мітрапаліт Сава ў той жа час узначальвае літургію ў згаданым Старым Корніне, а ў Крушынянах ён прысутны толькі ў екценнях. Дарэчы, цяперашні мітрапаліт можа не толькі ў екценнях прысутнічаў у Крушынянах, магчыма, што ён быў там час ад часу і сваімі думкамі. Бо ж гэта менавіта ён у 1981 годзе стварыў у Крушынянах самастойны нешматлюдны прыход, які зараз шпарка перамяшчаецца ў непадуладнае яму Нябеснае Царства...




Паказальнік перад „Татарскай юртай"

Пакуль я стаяў у малалюднай царкве, здавалася мне, што народу надалей мала, але калі людзі выйшлі на хрэсны ход, аказалася, што іх сабралася каля двухсот душ. За могільнікавай агароджай стаяла шмат машын, у рашучай большасці з беластоцкай рэгістрацыяй. Пасля богаслужэння адправіўся я ў сваю дарогу, асфальтоўкай у напрамку Крынак, Саколкі, Беластока. Легкавушкі ў гэтым напрамку не ехалі... Выхадцы Крушынянскага прыхода асталіся прадаўжаць свята на сваёй радзіме, падыхаць водарам сваіх найбольш цёплых успамінаў...

Зараз за Крушынянамі, у напрамку Крынак, узвышаецца Касматая гара. Стэнд перад ёю інфармуе, што тут: пачынаецца аб'яднаная Еўропа; гісторыю стваралі палякі, беларусы, яўрэі, мусульмане і літоўцы; Еўропа дыхае зялёнымі лёгкімі.

А на вяршыне гары ўкапаны камлямі дагары ствол елкі, да якога прыбіты чарговыя паказальнікі ў адметныя мясцовасці „аб'яднанай" Еўропы. У Крушынянах і наваколлі непатрэбныя ніякія джы-пі-эсы — тут усе зямныя каардынаты як на далоні...

Падаюся ў напрамку Горкі. У гэтай мясцовасці ў 1950 годзе быў заснаваны бадай першы ў тагачасным Сакольскім павеце калгас. „Беластоцкая газета" так у 1952 годзе пісала пра яго: „**Za sanacji w Górce ziemia i zabudowania należały do dziedziczki Heleny Jeżewskiej. Ciężkie to były lata dla dawnych fornali — dziś członków spółdzielni produkcyjnej. Harowali od świtu do zmroku na dziedziczkę. (...) Wiosenne siewy zakończyli spółdzielcy z Górki w terminie. Na równi z mężczyznami pracowały kobiety. Rozsiewały nawozy sztuczne, pracowały końmi, chodziły za siewnikami, a obecnie kończą pielonki. Praca w spółdzielni produkcyjnej stała się dla nich dużo lżejsza niż w gospodarstwie indywidualnym. Pracują bowiem zespołowo i w dodatku w pełni korzystają z maszyn**". Машын тых газета, аднак, не назвала.

Вёсачка Горка выглядае зараз вельмі нетыпова на фоне іншых навакольных мясцовасцей. Гэта вуліцоўка з пабудаванымі на адзін лад аднапавярховымі асабнякамі. Заглядаю на салтысоўскі панадворак, гаспадара няма, але неўзабаве прыязджае. Пытаю яго пра генезу адмысловых будынкаў, але ён не ўмее мяне пра яе паінфармаваць, бо нетутэйшы, але адсылае да *pana Jerzego*, які працаваў у мясцовым пэгеэры з самага яго пачатку. І яшчэ распытваю пра будынак маёнтка — ён крыху далей, каля двухсот метраў за вёскай.

Маёнтак Горка быў калісь у вобрубе вёскі Крушыняны, пра якія Міхал Балінскі так быў пісаў у сваёй кнізе *Starożytna Polska*: „**Kruszyniany, wieś o milę od Krynek, dziedziczna imienia Krzyczewskich Tatarów. Nadał ją król Jan III Samuelowi Krzyczewskiemu, ich przodkowi, który będąc Rotmistrzem chorągwi tatarskiej, w bitwie pod Parkanami przyczynił się do ocalenia życia oswobodzicielowi Wiednia. Wdzięczny król mianował go prócz tego Pułkownikiem, i udając się z Warszawy na sejm do Grodna r. 1688 wstąpił do Krzyczewskiego na obiad, a powracając z sejmu toż samo uczynił**". І польскі кароль Ян III Сабескі гасцяваў найверагодней менавіта ў горацкім маёнтку, крышку інакш чым брытанскі каралевіч Чарльз тры з чвэрцю стагоддзя пазней.

Двор, у якім мог гасцяваць славуты кароль, згарэў у 1890 годзе, а на ягоным месцы быў узведзены новы, які захоўваецца да сёння. У 1933 годзе маёнтак стаў уласнасцю згаданай Галены Яжэўскай, якую ў 1941 годзе саветы вывезлі ў Сібір. Вярнулася яна ў Польшчу пасля вайны, але жыла далёка ад свайго былога двара. Ейныя спадкаемцы не хадайнічалі за вяртанне не надта бескалапотнай маёмасці. Пасля *spółdzielni produkcyjnej* настаў у Горцы пэгеэр і, мабыць, у геркаўскі час было ўзведзена цяперашняе *osiedle*. Але гэта ўжо мая здагадка, бо патэнцыяльная інфарматара пра навейшыя горацкія падзеі, *pana Jerzego* не было дома; магчыма, што падаўся ён у той дзень *na odpust*. У Крушыняны...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Падзяка за цуд



„Няхай дапаможа вам Маці Божая Базільянка”, — жадаюць сабе ў зваротнай дарозе з нядзельнай імшы жыхары Ліпска над Бобрай. З асаблівай пашанай ставяцца ліпшчане да сваёй Нябеснай Заступніцы, а марыйнае свята 2 жніўня з'яўляецца адным з важнейшых у іх календары. Мясцовыя хронікі гавораць, што ў той дзень у 1914 годзе адбылося ўрачыстае асвячэнне новапабудаванага касцёла, які стаіць тут па сённяшні дзень. Гэта ўжо чацвёрты, па чарзе, каталіцкі храм у мястэчку над Бобрай. Першы быў узведзены Стэфанам Баторыем у 1582 годзе, а трэці Аўгустам II Моцным у палове XVIII стагоддзя. Галоўнай святасцю вялікай, неагатычнай будоўлі з'яўляецца ікона Божай Маці Базільянкі. Яна — адзіны, але надта відавочны след шматвяковай прысутнасці ўсходняга хрысціянства на гэтай зямлі. Знаўцы іканапіснага мастацтва аднназначна сцвярджаюць, што ікона прадстаўляе тыповую аматарскую ўніяцкую школу другой паловы XVIII стагоддзя. Паўсюль вядомая легенда адносіць узнікненне згаданай іконы на XV стагодздзе. У народзе гавораць, што ў XVIII стагоддзі невядомы базільянін прынёс яе ў скеблеўскую царкву ўзамен за фігурку Ісуса Хрыста з тамтэйшых прыцаркоўных могілак. Дакладна невядома, які лёс спаткаў царкву ў Скеблеве. Адна з дзвюх версій легенды гаворыць пра пажар храма, з якога вырататавалася толькі згаданая ікона, перанесеная ў Ліпск. Паводле другой, ікону забралі ў Ліпск разам з драўлянай царквой. Уніяцкая царква знаходзілася ў Ліпску на скрыжаванні вуліц Папярочнай і Царкоўнай. Цяпер там — вадасховішча. Да перанесенай іконы жыхары Ліпска горача маліліся, між іншым, у час заразы. Старым беларускім звычаем за адну ноч мужчыны выканалі вялікі, ахвярны крыж, падсцелены ўнізе льняным палатном і апярэзаны ручніком, сатканым таксама за адну ноч мясцовымі жанчынамі. Іх ахвяра была прынята, а зараза адышла. У 1882 годзе ўжо перайшоўшыя на праваслаўе ліпшчане аддзякавалі за збаўленне ад заразы, надзеўшы на ікону сярэбрана-залатую рызу. Тады ікона Маці Божай Базільянкі знаходзілася ў новапабудаванай, мураванай Раджэственскай царкве. Легенда гаворыць, што адступаючыя ў 1915 годзе рускія салдаты не змаглі зняць яе са сцяны царквы. Не дапамаглі ў гэтым малітоўныя прашэнні праваслаўных манашак і бацюшкаў. Божая Маці засталася. Праўдападобна ў 1918 годзе яе перанеслі ў мясцовы касцёл. У 1928 годзе для іконы быў пабудаваны спецыяльны драўляны алтар у візантыйскім стылі. Урачыстая каранацыя іконы адбылася ў 1931 годзе з нагоды 25-гадовага юбілею аднаўлення Ліпскай каталіцкай парафіі.

Гісторыю цудоўнай іконы і каталіцкага касцёла ў Ліпску добра ведае Эва Сковыш-Муха. Яна асабіста сабрала ўспаміны, здымкі і інфармацыйныя матэрыялы, якія ў 2012 годзе былі выдадзены ў кніжачцы „Sanktuarium na Kresach. Matka Boża Bazylianka”. Спадарыня Сковыш-Муха не скрывае, што яна з'яўляецца жывым доказам ласк сасланых Божай Маці Базільянкай.

— Мушу вам пра гэта расказаць, каб вы ведалі, што сапраўдныя цуды тут адбываюцца, — кажа яна. — Гісторыя здарылася ў 1948 годзе ў маім родным Рагазьнен-Новым, восем кіламетраў адсюль. Аднойчы мая мама выйшла навесці парадак на панадворку. Яна была тады мной цяжарная. З напрамку Ліпска заўважыла балоты ахопленыя агнём. З перапуду, абняўшы твар далонямі, закрычала: „Божа, сена нам згарыць”. Пасля ўспомніла, што цяжарным нельга баяцца агню, а прытым яшчэ і дакранацца да твару. Цэлы тыдзень слёзы ліліся з яе вачэй. У гэты час з'явілася ў хаце галодная прашальная жанчына.Тады многа такіх па вёсках хадзіла. Наеўшыся, пытаецца ў маёй мамы: «Чаго плачаш, дзіця?». Мама распавяла ёй пра здарэнне з агнём. Тая сказала: «Не засмучайся, памаліся да Божай Маці, прынясі ахвяру і адным пальцам левай рукі знімі тое, што ты дакранулася, і пацягні ўнепрыкметнае месца». Спадарыня Сковыш-Муха сакрэтна адхіліла краёк спадніцы, каб паказаць цёмную радзімку, з якой нарадзілася. Чаму яна паявілася дакладна там, куды пацягнула пальцам мая мама? — пытаецца, не чакаючы адказу. — А мама да апошніх дзён свайго жыцця адмаўлялася ад ежы ў кожную вялікую пятніцу. Я жыла з пачуццём, што мушу нейк аддзячыць Божай Маці за дараваную мне ласку, — з хваляваннем тлумачыць спадарыня Эва. — Адчуванне ўзрастала з гадамі, а я так і не ведала, што мне рабіць. Гэта быў асноўны штуршок да працы над кніжачкай пра наш касцёл і ікону. Там памешчаны таксама і іншыя сведчанні пра цуды. Яны паходзяць з аповедаў і запісаў у памятнай кнізе, якія пакінулі пілігрымы, наведваючыя Ліпскую ікону Божай Маці Базільянкі. Гэта ўжо шостае месца, у якім знаходзіцца нашая ікона, — працягвае спадарыня Эва. — Была яна ва ўніятаў, у праваслаўных, а цяпер застаецца з намі. Усе мы дзеці аднаго Бога.

Кніжачка Эвы Сковыш-Мухі завяршаецца спецыяльна складзенымі малітвамі для жадаючых пакланіцца цудоўнаму абразу. ■

Іаанна ЧАБАН




У свеце шмат помнікаў. Некаторыя, як, напрыклад, егіпецкія піраміды, з большага захаваліся цягам некалькіх тысячагоддзяў. Але і яны пакрысе руйнуюцца — на іх ужо практычна няма былой тынкоўкі, велічэзныя камяні дзе-нідзе павыпадалі са сваіх месц.

Што ж можна сказаць пра менш трывалыя помнікі, напрыклад, пра будынкі і манументы ў нашых, сярэднееўрапейскіх мясцінах? Дажджы, снягі, вятры і чалавечыя рукі не дазваляюць ім дацягнуць да ўзросту егіпецкіх пірамід. Каб захаваць для нашчадкаў у больш-менш годным стане важныя для нашай гісторыі помнікі, распрацаваны розныя метады і спосабы. Таму ахова помнікаў — гэта і навука, і добраахвотны рух неабыякавых людзей, сярод якіх ёсць і беларусы. Частка іх уваходзіць у так званы Беларускі камітэт ICOMOS.

Каб бліжэй пазнаёміцца з камітэтам, трэба ў інтэрнэце зайсці на сайт, што месціцца па адрасе http://icomos.by. Там перад нашымі вачыма адкрыецца даволі цікавае выяўленне, на якім пераважае зялёны колер. З левага боку ўверсе знаходзіцца эмблема ICOMOS — пегас на фоне сімвалічнай выявы зямнога шара. Выйсці на рубрыкі сайта знаходзяцца ўверсе і з левага боку цэлага выяўлення.

„Міжнародная Рада па помніках і мясцінах (ICOMOS) — адзіная міжнародная грамадская арганізацыя, скіраваная на падтрымку і прасоўванне тэорыі, метадалогіі і навуковых тэхналогій у кансервацыі архітэктурнай і археалагічнай спадчыны. Устаноўчы кангрэс ICOMOS адбыўся ў ліпені 1965 года ў Польшчы, праз год пасля падпісання Венецыянскай хартыі. ICOMOS — гэта міжнародная сетка экспертаў, сярод якіх ёсць архітэктары, гісторыкі, археолагі, інжынеры, географы і прадстаўнікі іншых прафесій, якія ў сваёй працы звязаныя з пытаннямі кансервацыі ці рэканструкцыі помнікаў”, — распавядаецца на старонцы „Пра ICOMOS”, якая ідзе ў пераліку рубрык другой пасля галоўнай.

Там жа кораценька распавядаецца і пра Беларускі камітэт ICOMOS — ён быў утвораны ў 2002 годзе і ў яго складзе гісторыкі, архітэктары, рэстаўратары, грамадскія актывісты, далучаныя да праблемы аховы і рэстаўрацыі помнікаў у Беларусі.

Падрабязнасці дзейнасці беларускіх аматараў захавання помнікаў можна знайсці, выйшаўшы на рубрыкі, пазначаныя злева агульным падзагалоўкам „Наша дзейнасць”.

Адным з найгалоўнейшых напрамкаў сваёй працы сябры Беларускага камітэта ICOMOS бачаць у валанцёрскім руху. Так, пачынаючы з 2010 года камітэт вядзе працу па сістэматызацыі інфармацыі аб валанцёрскіх летніках, выездах, мерапрыемствах, якія адбываюцца ў Беларусі ў сферы захавання гісторыка-культурнай спадчыны. „Калі вы плануеце нейкія валанцёрскія акцыі ў гэтым годзе, альбо хацелі б правесці нейкія работы на помніку, але не ведаеце як (і з кім), дасылайце інфармацыю нам на e-mail. Мы паспрабуем данесці яе да зацікаўленых людзей і даць карысныя парады па пытаннях дакументацыі”, — кажуць сябры ICOMOS, маючы намер прыцягнуць як мага больш людзей у свой валанцёрскі рух.

Сярод усіх рубрык сайта, якія дбайна запоўнены інфармацыяй, цікавай падаецца старонка са спісам помнікаў, якія ўнесены ў беларускі дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей. Яна пазначана сціпла, але зразумела — „Помнікі”.

■ Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ




Змагар супраць камунізму

## 110 гадоў з дня нараджэння Міколы Абрамчыка

Мікалай Абрамчык нарадзіўся 16 жніўня 1903 года на гістарычнай Вялейшчыне ў вёсцы Сычавічы пад Радашковічамі (цяпер гэта Маладзечанскі раён). Як піша Уладзімір Арлоў, Міколаў прадзед, Базыль Абрамчык, меў трынаццаць сыноў і ўсе яны ўзялі ўдзел у паўстанні 1863 года. Адзін быў за гэта пакараны смерцю на царскай шыбеніцы, іншыя высланыя, а Міколавага дзеда Янку выгналі з духоўнай семінарыі і пазбавілі грамадзянскіх правоў.

Мікола Абрамчык скончыў знакамітую Радашковіцкую беларускую гімназію. Нацыянальныя сілы рыхтавалі тады ў Заходняй Беларусі вызвольнае паўстанне. З мэтаю каардынацыі дзеяннеяў з менскімі незалежнікамі Абрамчыка пасылаюць у савецкую Беларусь. За два гады ён блізу 30 разоў нелегальна пераходзіў мяжу БССР і ва ўмовах канспірацыі сустракаўся з прафесарам Усеваладам Ігнатоўскім, тагачасным наркамам асветы. Менавіта Ігнатоўскі, якога Абрамчык усё жыццё будзе называць сваім „духовым бацькам”, і ўвёў яго ў менскі антыбальшавіцкі асяродак.

З 1923 года Абрамчык працягваў адукацыю ў Празе, вучыўся ў сельскагаспадарчай акадэміі, быў дзеячам Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый. У Чэхаславаччыне зблізіўся з прадстаўнікамі ўрада БНР Пётрам Крэчэўскім, Васілём Захаркам і іншымі. У 1930 годзе пераехаў у Францыю, стаў там заснавальнікам і кіраўніком Аб'яднання беларускіх рабочых „Хаўрус беларускай працоўнай эміграцыі” (1932), выдаўцом яго перыядычных выданняў „Бюлетэнь” і „Рэха”. Лявон Рыдлеўскі — сябар і паплечнік Абрамчыка — у сваіх успамінах піша, што Мікола мусіў пакінуць Францыю, трапіўшы на вока гестапаўцам.

У час Другой сусветнай вайны Абрамчык — дзеяч Беларускага камітэта самапомачы ў Берліне (1941-1943), рэдактар газеты „Раніца” (1939-1944), арганізатар і лектар курсаў беларусазнаўства, выдавец кніг Якуба Коласа „Сымон Музыка” і Ларысы Геніюш „Ад родных ніў”. Працаваў у Камітэце самапомачы ў Беластоку. У канцы 1943 года вярнуўся ў Парыж. Старшыня (прэзідэнт) Рады БНР (1943, снежань 1947-1970). У 1947 годзе арганізаваў крывіцкую Раду БНР (крывіцкі блок). Быў жанаты з Нінай Ляўковіч (з пач. 1940-х). Мікола Абрамчык быў праціўнікам пераходу беларускіх епіскапаў у Расейскую Замежную Праваслаўную Царкву і адным з ініцыятараў адраджэння Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў 1948 годзе.

Абрамчык браў актыўны ўдзел у пасляваенным антыкамуністычным руху. Ён напісаў і выдаў брашуру „I accuse Kremlin of Genocide of My Nation” („Я абвінавачваю Крэмль у генацыдзе майго народа”; ЗБК, Таронта 1950). У 1950-1960-х гадах быў прэзідэнтам Лігі за вызваленне народаў СССР (League for the Liberation of the Peoples of the USSR).

Памёр Мікола Абрамчык 25 траўня 1970 года. Пахаваны ў Парыжы на славутых могілках Пэр-Ляшэз. З-за таго, што на магільнай пліце не было надпісу, а магіла значны час не даглядалася, месца пахавання Міколы Абрамчыка было згублена. Намаганнямі сяброў згуртавання „Беларуская нацыянальная памяць” магіла была адшуканая ў 2008 годзе.

■ Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# У Кляшчэлях свята

Сёлетнія XVII Дні Кляшчэляў пачаліся ў пятніцу 26 ліпеня, а закончыліся 28 — у нядзелю. Пачатак мерапрыемству далі „Залатыя годы". Прэзідэнт Рэчы Паспалітай узнагародзіў чатырнаццаць шлюбных пар медалямі за 50-гадовае шлюбнае жыццё. Ад імя прэзідэнта РП медалі ўручыла і віншавальны ліст зачытала бурмістр Ірэна Негярэвіч. У мастацкай частцы выступілі „Мікстуркі" і „Фантазія" з Гарадскога асяродка культуры ў Кляшчэлях пад кіраўніцтвам Ігара Фіты, фальклорны калектыў з Дабрывады, а таксама салісткі Марта Петшак з Кляшчэляў і Валянціна Клімовіч з Дабрывады.

Наступнага дня, у суботу, праходзілі спартыўныя спаборніцтвы па футболе і валейболе за кубак бурмістра горада. У валейболе перамагла каманда УЛКС „Ожэл-кадэткі". На футбольным полі змагалася пяць каманд, а пераможнай аказалася каманда з Гайнаўкі.

У тым жа часе былі арганізаваны фатаграфічныя адкрытыя майстар-класы ў рамках праекта „Жыццё ў аб'ектыве", рэалізаванага ў рамках праграмы Рэгіянальнага грантавага конкурсу „Раўняць шанцы — 2012", прафінансаванай Польска-Амерыканскім фондам свабоды. Удзельнікі асвойвалі таямніцы шчылінавай фатаграфіі, прынцыпы кампазіцыі, глыбіні рэзкасці, затым удзельнічалі ў фатаграфічнай сесіі. У суботні вечар можна было пагуляць на дыскатэцы.

У нядзелю стаяла цудоўнае сонечнае надвор'е. За цэнтрам культуры „Гладышка" заранёў была падрыхтавана пляцоўка для публікі. Побач прадпрымальнікі расставілі латкі з цацкамі і ласункамі для малеч, і півам ды ахаладжальнымі напоямі для дарослых. У 15 гадзін пачаўся канцэрт. У святкаваннях удзельнічалі бурмістр горада Ірэна Негярэвіч, благачынны а. Мікалай Келбашэўскі, ксёндз Ян Красоўскі, член Маршалкоўскай управы, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Ян Сычэўскі, павятовы радны Яраслаў Герасімюк, дырэктарка Бельскага дома культуры Малгажата Біль-Ярузельская, прадстаўнікі Пагранзаставы ў Чаромсе і Надлясніцтва ў Бельску-Падляшскім, радныя і солтысы Кляшчэлеўскай гміны ды шматлікая публіка. Першым выступіў дырэктар Гарадскога асяродка культуры, спорту і адпачынку Лявон Аляксеюк, які прывітаў гасцей і прадставіў праграму канцэрта. Затым голас узяла бурмістр Ірэна Негярэвіч:

— Сёлетнія святкаванні Дні Кляшчэляў супадаюць з 20-й гадавінай аднаўлення гарадскіх правоў. Хоць лічымся самым меншым мястэчкам паводле ліку насельніцтва і карыстаемся сціплым бюджэтам, намагаемся рэалізаваць задачы па меры сваіх магчымасцей. А гэта дзякуючы падтрымцы лакальнай грамадскасці і самаўрада. Сённяшнія святкаванні з'яўляюцца гэтага доказам. Выступяць вядомыя калектывы — айчынныя і з суседняй Беларусі. Затым жадаю мілага адпачынку і цудоўных уражанняў.


„Церніца"


„Арляне"



Палачку вядучых пераймаюць сімпатычныя прыгажуні з мясцовага асяродка культуры: Дар'я Хшаноўская і Малгажата Зубік. Першымі на сцэне выступілі „Клекацякі" з Боцькаў, якія прывіталі публіку народнай песняй „Каліна ў лесе". Калектыў паспяхова дзейнічае з 1962 года пад кіраўніцтвам Станіслава Дэрэгайлы. Танцавальную групу вядзе харэограф Уршуля Турковіч. „Клекацякі" двойчы выходзілі на сцэну. Пасля кожнага нумару не сціхалі бурныя воплескі. А рэпертуар мелі багаты і разнастайны — ад народнай „Уцякла мне перапёлка ў проса" па вясёлую „Каробачку". У далейшай частцы канцэрта царыла беларуская музыка і песня. А гуртоў не трэба было рэкамендаваць. „Ас" пад кіраўніцтвам Славаміра Трафімюка прывітаў „Песняй пра бацькоў", затым пераважалі лірычныя песні, папулярныя гіты: „Букет белых роз", „Пра каханне ад душы", „Белая чаромуха", „Чырвона ружа", а на развітанне гурт выканаў „Валошку сінюю". Пасля выступу „Аса" былі аб'яўлены вынікі конкурсу на найпрыгажэйшую сядзібу. Пераможцам аказалася Катажына Яноўская, другое месца заняла Людміла Рошчанка, а трэцяе — Цацылія Елень. Вылучэнні атрымалі сужонства Міраслава і Міхал Зіневічы з Дабрывады і Аляксей Пермінаў з Кляшчэляў. Затым выступілі „Церніца" з Беларусі, „Вэрвачкі" і „Арляне" з Орлі, „Маланка" пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука з Бельска-Падляшскага, „Пшэпюрка" і Студыя песні з Гайнаўскага дома культуры, „Ручаёк" з Белавежы і мясцовыя гурты „Мікстуркі" і „Фантазія" з непаўторнай салісткай Сільвіяй Камінскай. Немагчыма прадставіць поўны рэпертуар выступаючых калектываў. Усе яны справіліся на „шасцёрку з сонейкам". Варта адзначыць, што паспяхова прайшоў конкурс ведаў аб Кляшчэлях і Падляшскім ваяводстве, а яго ўдзельнікі атрымалі падарункі ад арганізатара. Пасля канцэрта запрошаныя госці і выступаючыя калектывы пакарысталіся супольным пачастункам. А завяршылася мерапрыемства ўжо на адвячорку пры мелодыях гурту „Makar-Dance".

Варта было пабываць на святкаваннях у Кляшчэлях. За гэта так арганізатарам, як і спонсарам належыцца шчырае дзякуй!

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# Адгаданка

1. музыка са скрыпкай, 2. адзінка падліку працы калгасніка, 3. насякомае з джалам, 4. возера ў Браслаўскім раёне, 5. расплаўленая вулканічная маса... для сядзення, 6. металічная пласцінка для пісання тушшу... якая вырастае на скуры птушак, 7. адзінка сілы, 8. вечаровыя зборы вясковай моладзі для сумеснай забавы, 9. муж гаспадыні, 10. рэлігійнае або ідэалагічнае палажэнне, якое прымаецца за бясспрэчную ісціну, 11. транспарты сродак з агглямі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 29 нумара**

Венік, Ева, лес, ніз, сон, шып.

Рашэнне: **З песні слова не выкінеш**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 100 egz.

# 25.08 — 31.08

**(22.03. — 20.04.)** Дома рызыкоўная ідылія; калі ўсё палагодзіш, спакой і гармонія запануюць на доўгі час. Згубная звычка забіраць работу дахаты. З 28.08. моцна паправіцца твой настрой. Маеш шанц ахвотна ўзяцца за справы, да якіх не меў сэрца. Адпачывай, купайся, здарова дыхай.

**(21.04. — 21.05.)** Зарадзь акамулятары пазітыўнай энергіяй. Выберы лёгкую дыету. Старайся не чапаць жалезных запасаў; будзе крыху завіраванняў, нечаканых выдаткаў. 25.08. распраўся з мінулым! 25-29.08. лепш не выбірайся на пакупкі, бо выдасі фуру грошай!

**(22.05. — 22.06.)** Лепш у каханні. Можаш сустрэць свой ідэал! Але ў пары 25-28.08. магчымы крызіс, абвінавачанні. 26-30.08. будзеш адораны незвычайнай сілай пераканання. Можаш захапіць кіраўніцтва. Маеш шанц выказацца незвычайнай лаяльнасцю, абавязковасцю, калі іншыя расчаруюць. 25-27.08. магчымыя пустыя дыскусіі, бесталковыя спрэчкі і нятрапныя дзеянні.

**(23.06. — 23.07.)** Найлепшы час на сур'ёзную размову аб будучыні — 25-28.08.; пераканаешся, ці варта інвеставаць у пачуццё. Дома будзе мілей, больш гарманічна, а ты будзеш шчодры. З 27.08. маеш шанц на поспех у кампанейскім плане і ў цікавых прафесійных прапановах.

**(24.07. — 23.08.)** 28-31.08.: нагоды для ўрападкавання розных спраў; час спрыяе добрай арганізацыі і далёкатэрміновым планам. 28.08. — паразмаўляй з каханай асобай аб справах, якія вы абміналі. Калі не маеш пары — сачы: у ваколіцы паявіцца калі не той адзіны (адзіная), дык будзе шанц на прыемны флірт ці раман! 25-29.08. — найлепшы час на прадпрымальніцтва. Але пазіцыя зорак у гэты час будзе заахвочваць да шалёных выдаткаў. 25-28.08. пільнуйся пры інфармацыях. За мудрае гаспадаранне касай возьмешся 28.08. Май спрытны план у кар'еры на апошнія дні месяца.

**(24.08. — 23.09.)** З энергіяй возьмешся за дзеянні. Толькі што будзеш нецярплівы і злосны на ваганні іншых. Абвострыцца твая інтэлігентнасць, кемлівасць, імкненне да ведаў. Можа варта пачаць вучыцца мовам ці рызыкнуць важную размову? Але 25-28.08. лепш не вырашай аб важным у фінансах.

**(24.09. — 23.10.)** Задбай аб свой імунітэт; можа, паспрабуй гідратэрапіі? Шпацыруй. Да 28.08. пакажашся са свайго найлепшага боку. Не ад усяго мусіш адмаўляцца. 25-29.08. зоркі могуць пакрыжаваць твае планы, але ты іх цвёрда трымайся; сачы за дэталямі. Магчымая напруга, нервовая атмасфера, расчараванні.

**(24.10. — 22.11.)** 25-27.08. — ненайлепш у пачуццях; нялёгка, але справішся з крызісам. У кар'еры Марс падкіне выклікі, ад якіх не адмовішся. Маеш шанц паказаць, колькі ты сапраўды варты. Неверагодны калаўротак, але ты будзеш ведаць, што рабіць, каб шмат здабыць. 27-30.08. выпадкова даведаешся аб чымсьці, што дазволіць пазбегчы сур'ёзных фінансавых памылак. Будзе шанц на павелічэнне зберажэнняў і карысныя інвестыцыі. 26-30.08. — маеш „нос" да інтарэсаў, справішся з найбольш складанымі справамі. 28-31.08. будзе спешка, недахоп засяроджанасці, злосць і жаль.

**(23.11. — 22.12.)** З 25.08. аграмадная энергія. 28-31.08. — смелыя прыёмы. Будзеш проста страляць энергіяй, мець мноства задум. Хутка звернеш на сябе ўвагу атачэння. У здароўі супакоіцца. Не спалучай пачуццяў і інтарэсаў!

**(23.12. — 20.01.)** Самотным 25-27.08. шыкуюцца неспадзеўкі. У сям'і размаўляй. Штосьці зменіцца ў хаце. 28.08. укладзі грошы на доўгатэрміновы капітал. 25-29.08. афармляй сравы, якія патрабуюць засяроджання і мабілізацыі. 28-31.08. надзея, што праблемы немагчымыя для вырашэння акажуцца лёгкімі. 25-28.08. твае пачуцці могуць апынуцца перад сур'ёзным выпрабаваннем; не вырашай неабдумана.

**(21.01. — 19.02.)** Вырашыш праблемы, якія даўно адкладваў. Але важныя сямейныя справы адтэрмінуй на пасля. Затое Венера і Меркурый падмацуюць цябе ў грашах.

**(20.02. — 21.03.)** Болі галавы і жывата; пі зёлкі і адпачывай. Будзеш рашучы і адважны, і большасць праблем патрактуеш як выклікі, што пагражае стрэсам. 25-27. 08. — памылкі і прафесійныя праблемы; пільнуй дамоваў і важных сустрэч. 25-28.08. абмяжуй выдаткі. 25-29.08. паніжэнне імунітэту і засяроджанасці, чорныя думкі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Лета з традыцыяй

У Беларускіх этнаграфічных майстар-класах «Лета з традыцыяй», ладжаных у ліпені Музеем малой айчыны ў Студзіводах, прынялі ўдзел дзеткі і моладзь з Бельшчыны, Беластока і іншых мясцовасцей. Сёлета вучыліся яны саломапляценню, ткацтву, маляванню, народным песням і танцам. Дапамагалі яны ў час жніва, падбіралі жыта і звязвалі яго ў снапы, знаёміліся з прыгожай навакольнай прыродай.



Зоя Майстровіч з Рудутаў вучыла саломапляценню



Палавік на кроснах вучні ткалі пад наглядам Анны Фіёнік



Дзяўчаты выконвалі з саломы абручы на галаву і аўтаручкі

Калі я прыехаў у Студзіводскі музей, удзельнікі майстар-класаў выконвалі вырабы з саломы, ткалі палавік на кроснах і ўручную рабілі паясы. Раней вучні малявалі навакольныя краявіды, а пасля абеду мелі вучыцца даўнім песням і народным танцам.

— Спачатку заняткі па саломапляценні і ткацтве паказваліся складанымі, але зараз нашы «ветэраны», якія пабывалі на майстар-класах у мінулых гадах, плятуць з саломы і ткуць даволі лоўка і, што цікавае, ткаць на кроснах найбольш рвуцца хлопцы, бо кросны, гэта свайго роду машына, якая больш цікавіць юнакоў, чым работа з іголкай. Рукадзелле — наша спадчына, якую мы павінны перадаваць з пакалення ў пакаленне. Вучым рукадзеллю ў час майстар-класаў «Лета з традыцыяй» і падчас заняткаў на працягу школьнага года, — сказаў галоўны арганізатар этнагарфічных майстар-класаў, старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» Дарафей Фіёнік.

На працягу школьнага года ляпіць з гліны вучыў у Студзіводскім музеі Васіль Логвін з Брэста, а кравецтву — Марыя Андраюк з Бельска-Падляшскага.

— Ідэя нашых майстар-класаў — паказаць цяжкую і заадно цікавую працу, якую выконвалі нашы продкі, і прывіваць моладзі любоў да нашых традыцый. Мы стараемся зацікавіць вучняў народным танцам і белым спевам. У школах зараз практычна не вучаць ручным работам, не гаворачы ўжо пра народнае рукадзелле. Умеласці, якім навучацца дзеткі падчас майстар-класаў, будуць напэўна патрэбны ў пазнейшым жыцці. Заняткі па спяванню таксама патрэбныя ў рамках агульнага развіцця маладых асоб, — сказала Анна Фіёнік, кіраўнік спявацкага калектыву «Жэмэрва», якая вучыла ткаць на кроснах, беламу спеву і беларускім народным танцам.

Народная паэтэса і майстрыха па саломапляценні Зоя Майстровіч з Рудутаў вучыла выконваць вырабы з саломы, між іншым, талеркі і кошычкі.

— У час заняткаў па саломапляценні дзеткі становяцца больш спакойнымі. Працуючы ўручную, адпачываюць яны ад мультымедыйнай тэхнікі, якая раздражняе іх псіхіку. Я пастаянна дапамагаю, бо нават тыя, якія налоўчыліся плесці з саломы, робяць яшчэ памылкі і трэба нешта выправіць. Але ў агульным нашы вучні здольныя і хутка вучацца рукадзеллю, — заявіла Зоя Майстровіч, якая размаўляе з вучнямі практычна толькі па-свойму і такім чынам прывівае ім любоў да роднага.

— Я пяты раз прымаю ўдзел у этнаграфічных майстар-класах. Люблю выплятаць вырабы з саломы, якія пасля паказваю бацькам. Люблю таксама маляваць, — гаварыла Малгажата Ясюк.

Ірына Гулюта з Мастацкага коледжа ў Кобрыне, з якім Студзіводскі музей наладзіў супрацоўніцтва, вучыла ручному пляценню паясоў і дэкаратыўнаму саломапляценню.

— Дзеткі ўмела выконваюць з саломы абручы на галаву, аўтаручкі, а з каляровых нітак — беларускія паясы. Учора цяжкавата было плесці паясы, асабліва выконваць асновы да іх, але сёння дзеткі працуюць намнога лепш, з вялікай ангажаванасцю, і падбіраюць цікавыя колеры для паясоў. Займаючыся рукадзеллем дзеткі вучацца цярплівасці і ручным умеласцям. Іх работы гэта мастацкія працы. Нашае саломапляценне мастацкае і мы карыстаемся даўнімі народнымі ўзорамі, — сказала Ірына Гулюта з Кобрына. — Я люблю працаваць з дзеткамі. Яны тут проста малайцы, хочуць усё зрабіць як мага найлепш. Калі дзеткі будуць вучыцца нашай традыцыі, будуць таксама шанаваць сваіх бацькоў.

— Найбольш складана было выканаць аснову для паясоў. Пасля мы выплялі іх даволі лёгка, — сказала Аляксандра Зінкевіч з бельскай «тройкі».

— Вельмі цікава выплятаць з саломы. Мы тут ужо чарговы раз, бо тут вельмі файныя заняткі, — заявілі Іаанна і Уршуля Паўлючук.

— Спачатку складана было плесці з саломы, але пасля работа пайшла як па масле. Мы выплялі цікавыя абручы і аўтаручкі, — гаварыла Вераніка Сабешук.

Эмілію Гліву, дзеткі якой займаліся ў час майстар-класаў, і заадно апякунку вучняў у Студзіводскім музеі, спаткаў я, калі дапамагала ім выконваць беларускія паясы.

— Нам, бацькам, важна, што дзеткі вучацца нашым традыцыям і рукадзеллю, бо гэта нашае прошлае, нашая гісторыя, — сказала Эмілія Гліва. — Нашыя дзеці многа часу праседжваюць за камп'ютарамі і перад тэлевізарамі. Тут у іх актыўны адпачынак. Танцы і заняткі ў полі гэта перадусім рух на свежым паветры, важны для захавання здароўя. Калі б было больш месцаў на майстар-класах, то больш вучняў запісалася б на вельмі цікавыя заняткі.

У Студзіводах займаліся таксама вучні з Любліна, Варшавы і Беластока, бацькі якіх — выхадцы адсюль.

— Мы гаворым да дзетак па-свойму. Частка з іх спачатку вучыцца беларускай мове неактыўна, іншыя, гаворачы на польскай мове, карыстаюцца паасобнымі беларускімі словамі, а яшчэ іншыя ўдзельнікі майстар-класаў прабуюць размаўляць на падляшскай гаворцы, — заявіла Анна Фіёнік (размаўляць па-свойму найбольш заахвочвалі яе пляменнікі — Ілья, Максім і Таіса Фіёнікі, якія так размаўляюць дома з бацькамі і бабулямі).

Група з 25 вучняў падставовых школ і гімназій праводзіць заняткі ў музейных памяшканнях. Сярод іх Ніка Юрчук, скрыпачка з капэлы студзіводскага калектыву «Жэмэрва», вучаніца бельскай «тройкі», удзельнікі тэатральнага калектыву «Антракт», які дзейнічае ў Бельскім доме культуры, ды музычнага калектыву «Жэўжыкі» з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім. У мінулым у час летніх майстар-класаў адкрываліся таленты, якія пасля папаўнялі састаў «Жэмэрвы».

На полі з вучнямі займаўся Дарафей Фіёнік і апекуны. Дзеткі падбіралі скошанае жыта і рабілі пярэвяслы, а старэйшыя асобы звязвалі жыта ў снапы. Вучні працавалі ў вясковай хаце і мяшчанскім доме, якія ўваходзяць у састаў Музея малой айчыны, пазнаёміліся з музейнымі экспанатамі.

— У вясковай хаце прэзентуем прылады працы і ручныя вырабы, якімі нашыя продкі карысталіся штодзень і ў святочныя дні. Не накопліваем многа экспанатаў, каб не было перанасычанасці, бо ў мінулым людзі не трымалі ў хатах лішніх прылад і вырабаў, — патлумачыў Дарафей Фіёнік.

Маладым асобам спадабалася выстаўка даўняй вопраткі, адкрытая вясной гэтага года. Іх увагу прыцягвалі прыгожыя аздабленні на жаночых і мужчынскіх кашулях ці фартушках. Вучні ўжо ведалі, што палатно для вопраткі ткалі на кроснах. Гэта заахвочвала дзетак сесці за кросны і ткаць палавік.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

ISSN 0546-1960